

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 38 (90) 20 верасня 2023 г.**

# Ліда адзначыла Дзень народнага адзінства

17 верасня Лідчына адзначыла самае маладое дзяржаўнае свята - Дзень народнага адзінства.

Імпрэза прымеркавана да ўгодкаў пачатку ўз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі ў 1939 годзе, калі Чырвоная Армія перайшла мяжу з Польшчай. У выніку беларускі народ стаў адным цэлым.




У рамках свята ў горадзе праходзілі ўрачыстыя культурна-масавыя і патрыятычныя мерапрыемствы.

Апроч канцэрту, прысвечанага Дню народнага адзінства з удзелам лепшых творчых калектываў Лідчыны, у горадзе прайшлі забаўляльна-пазнавальныя мерапрыемствы, спартовыя гульні, былі арганізаваны тэматычныя пляцоўкі, сабраны рамесныя рады. Супрацоўнікі ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" арганізавалі шэраг кніжных выстаў. Былі прадстаўлены навукова-папулярныя выданні, энцыклапедыі, даведнікі пра грамадска-палітычнае і сацыяльна-эканамічнае развіццё, гісторыю і сучаснасць Рэспублікі Беларусь.

Хацелася б адзначыць выдатную арганізацыю свята і высокую ўцягнутасць гараджан у мерапрыемства. Адмысловай цікавасцю як у дарослых, так і ў маленькіх лідзян карысталіся паказальныя выступы кінолагаў, дэманстрацыя пажарных машын і правядзенне займальных віктарын арганізатарамі, а таксама палявая кухня і выстава зброі. Таксама дзеці з задавальненнем удзельнічалі ў гульнях гарадка "Спартовы калейдаскоп".







Дзень народнага адзінства для лідзян - гэта не проста свята, гэта памяць пра тое, як цяжка народ нашай Радзімы ішоў да сваёй незалежнай дзяржавы.

***Паводле СМІ.***





## Горад над Нёманам святкаваў 33-ці дзень нараджэння і 140-гадовы юбілей шклозавода "Нёман"

Гэты невялічкі гарадок над Нёманам (усяго ў дзесяць тысяч жыхароў) заслужана называюць сталіцай шкловарэння, горадам майстроў, горадам-легендай…

Вядомы ён далёка за межамі Беларусі, ну а сваім узнікненнем як населены пункт абавязаны шкляной гуце, заснаванай у гэтых краях у 1883 годзе паўстанцам 1863 года Зянонам Ленскім. Лёсы горада і завода так цесна перапляліся, што дзве сённяшнія падзеі - 33-ці дзень нараджэння Бярозаўкі (у статусе горада) і 140-гадовы - шклозавода "Нёман" - па праве адзначаліся разам. А напярэдадні Дня народнага адзінства яшчэ і з вялікім размахам.










У гэты дзень, 16 верасня, жыхарам і гасцям Бярозаўкі хапіла і яркіх відовішчаў, і смачных пачастункаў. Да свята горад змяніўся, а арганізатары паспрабавалі здзівіць маштабным фарматам гулянняў.

*Наш кар.*

## Дзень адзінства ў Нясвіжскай бібліятэцы

Сустрэчы з вядомым беларускім паэтам Аляксеем Белым і нясвіжскім пісьменнікам Уладзімірам Бруем дазволілі сустрэцца з выдатнымі землякамі і мне, атрымаць велізарнае задавальненне ад гэтых мерапрыемстваў, у чарговы раз пераканаўшыся, якое вялікае значэнне для нашага народа мае адзінства і мір.







*Зоя Кулік.*





# Рыцар Янка і каралеўна Мілана. Агонь і лёд

*У выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшла завяршальная частка прыгодніцка-фэнтэзійнай трылогіі на падставе беларускай міфалогіі "Рыцар Янка і каралеўна Мілана. Агонь і лёд".*






Новыя гісторыі адбываюцца на Каляды. Снежныя забавы, калядаванне да глыбокай ночы… А што за Каляды без цудаў? Юныя брат і сястра Янка і Мілана вырашаюць ізноў выправіцца да сваіх сяброў - наведаць таямнічае каралеўства Сварга, уваход у якое пралягае праз старажытнае люстэрка ў дзедавай каморы. Здавалася б, пасля апошніх перамог там павінен быў настаць супакой. Але, калі ў каралеўстве Сварга цяпер так і было, то ў іх сяброў усё было далёка не так добра - на іх землі, суседняе каралеўства Вагорыя, напала бязлітасная вядзьмарка Маразанна, якая кіруе вятрамі і здольная ўсё ператварыць у лёд і якой верна служаць Падвей і паветрыкі.

Юных герояў чакаюць яшчэ больш цяжкія выпрабаванні: ім давядзецца прабірацца ўначы скрозь жудасныя могілкі, спаткацца са Змяіным каралём, выявіць небывалую кемлівасць, каб разгадаць шэраг загадак у пошуках таемнага пакою, дзе схавана магутная чароўная зброя. А яшчэ - упершыню выправіцца ў палёт на Цмоку, каб знайсці загадкавы горны народ - таямнічыя вілы, феі, якія здольныя прадказваць, што было і што будзе. І ўсё гэта, каб даць адпор магутнай вядзьмарцы, якую, апроч дыяментаў і бляску ільду, нічога не цікавіць і не кранае яе бяздушнае халоднае сэрца.



Дапамогуць адважным юнакам у барацьбе Цмок, браты-волаты Вярнігара і Вярнідуб, бабралакі, мядзведзялакі і ўсе, хто мае адважнае сэрца і прагне жыць свабодным. Юных герояў чакаюць адданыя сябры і новыя знаёмствы, і яшчэ больш неверагодныя прыгоды і слаўныя бітвы.

***Наш кар.***





# Матэматыку ў казках для школьнікаў прэзентаваў прафесар Алег Мельнікаў




Выданні для школьнікаў прэзентаваў прафесар, доктар педагагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі Алег Мельнікаў.

Мерапрыемства прайшло ў магазіне "Акадэмкніга" ў Менску, паведамляе карэспандэнт "Настаўніцкай газеты".

Алег Мельнікаў напісаў больш за 30 кніг для школьнікаў, студэнтаў і навуковых работнікаў. Гэтым разам ён прэзентаваў дапаможнік для вучняў 3-4 класаў "Развіццёвыя лагічныя задачы" для факультатыўных заняткаў, а таксама кнігу казак і матэматычных задач для малодшых школьнікаў "Вавёрачка". На сустрэчы з чытачамі разам з ім прысутнічала адзін з суаўтараў дапаможнікаў для вучняў настаўніца пачатковых класаў Святлана Капылова.

- Кнігі па матэматыцы я пачаў пісаць 30 гадоў назад. Першая з іх - "Лекцыі па тэорыі графаў", якую разам са мной стваралі навукоўцы У.А. Емелічаў, У.І. Сарванаў і Р.І. Тышкевіч, - расказаў Алег Мельнікаў. - У той час у БДУ пачалі выкладаць тэорыю графаў, а падручнікаў не было. Вось мы і напісалі лекцыі для ўнутранага карыстання. У выніку яны былі прызнаны ў розных краінах. Неўзабаве ўзяўся за тэксты па матэматыцы для школьнікаў, з'явіліся кнігі "Нязнайка ў краіне графаў", "Займальныя задачы па тэорыі графаў" (яе пераклалі на іспанскую мову). Калі ж мой сын пайшоў у пачатковую школу, я вёў у яго класе факультатыў і адначасова ствараў для вучняў развіццёвыя задачы.

Удзельнікі сустрэчы пацікавіліся ў прафесара Алега Мельнікава: "Як прывіць дзіцяці любоў да матэматыкі?".

- Гэта прыроджанае пачуццё, але яго можна развіць, - упэўнены навуковец. - Пачынайце не з матэматычных, а з займальных задач. Калі ў дзіцяці ёсць задаткі, яны абавязкова разаўюцца. Матэматыка шмат у чым абслугоўвае іншыя навукі, і калі вучні ўбачаць, што яна карысная і ў іншых прадметах, то возьмуцца яе вывучаць. Праз матэматыку, перш за ўсё, трэба вучыць логіцы. У маіх кнігах няма задач накшталт: "У Машы былі тры яблыкі. Яна з'ела адзін. Колькі засталося?". Я прапаную задачы на разуменне. Да таго ж пры навучанні матэматыцы ў пачатковых класах нельга быць занадта строгім.

І сапраўды, калі пагартаць дапаможнік "Развіццёвыя лагічныя задачы" і рабочыя сшыткі да яго для 3-4 класа, то там ёсць незвычайны персанаж - сябар і памочнік Рашарык, які ажыўляе працэс навучання, падказвае дзецям, жартуе, дае парады, удзельнічае ў вырашэнні задач. Што тычыцца зместу дапаможніка, то ў ім ёсць як лагічныя, так і займальныя лагічныя нематэматычныя задачы, задачы на прамежкі, на вылічэнні, на рух, на работу, на пераліванні і ўзважванні, на час, камбінаторныя і геаметрычныя, тыя, што рашаюцца з дапамогай графаў, і задачы для ўсёй сям'і.

Што тычыцца любімых задач, то іх у прафесара Алега Мельнікава шмат. Напрыклад, адна з такіх. "На навагоднім вечары Дзед Мароз паказаў дзецям ліст паперы з намаляванымі зорачкамі і спытаў: "Колькі іх?". Маша сказала, што 5. Дзед Мароз пацвердзіў, што гэта правільна. А Вася сказаў, што зорачак 7. І гэта таксама правільна. Як такое магло быць?"

Яшчэ Алег Ісідаравіч ведае, як ператварыць складаную для школьнікаў матэматыку ў займальную казку. У гэтым пераконваешся, калі гартаеш яго кнігу на беларускай мове "Вавёрачка", якая складаецца з дзвюх частак. У першай змешчаны літаратурныя казкі пра Вавёрачку, яе сяброў і ворагаў, у другой - сюжэтныя матэматычныя казкі-задачы. Таму кнігай можна карыстацца ў пачатковых класах на факультатывах па двух прадметах: беларускай мове і матэматыцы.

Хоць аўтар і прызнаецца, што для дзяцей пісаць нашмат складаней, чым для дарослых, здаецца, што гэта зусім не так, настолькі лёгкі стыль тэкстаў яго казак.





- Я не пісьменнік, а чалавек, які пішa літаратурныя тэксты. Яшчэ я сапраўдны тэатрал. Дома маю вялікую бібліятэку п'ес, - адзначае прафесар. - Патрэба ў творчасці прыходзіць сама. Разумею, што магу выказаць свае думкі нестандартна. Я стараўся пісаць казкі, у якіх дабро перамагае зло, розум і ўзаемадапамога супрацьстаяць сіле і нахабству, а сяброўства робіць жыццё больш цікавым і яркім.

Што тычыцца навучання матэматыцы, на мой погляд, галоўным у сярэдняй школе з'яўляецца не напаўненне вучняў рознымі ведамі, правіламі, алгарытмамі, формуламі, тэарэмамі, якія без штодзённага ўжывання ўсё роўна хутка забудуцца, а развіццё разумовых здольнасцей. Уменні разважаць, адстойваць свой пункт гледжання, прымяняць пры доказах лагічныя прыёмы спатрэбяцца і навукоўцу, і юрысту, і ўрачу, і прадаўцу на рынку. І ўсяму гэтаму трэба вучыць ужо з 1 класа.

Навука і вытворчасць развіваюцца так хутка, што частка ведаў, атрыманых у прафесійных і вышэйшых навучальных установах, састарэе ўжо да моманту іх заканчэння. Таму трэба вучыць дзяцей самім набываць новыя веды і самім прыдумваць нестандартныя метады рашэння новых задач.

Алег Мельнікаў прачытаў адну з матэматычных казак пра Вожыка і Зайца, якія пілуюць дровы для сяброўкі Вавёркі (бо хутка зіма), а затым вязуць іх на вазку да Вавёрчынага дрэва. У штодзённым працэсе (пілаванне дроў, упрыгожванне клумбы, збіранне маліны, выпяканне пірага і г.д.) галоўныя героі рашаюць шэраг матэматычных задач. Напрыклад: "Колькі распілаў зрабілі Вожык і Заяц, калі ў выніку пілавання бервяна атрымалася 6 цурак?" Або: "Калі ў вазка 4 колы, а да дрэва - 8 метраў, колькі метраў праедзе кожнае кола?" Звяры рашаюць гэтыя практычныя пытанні, спрачаюцца - і ў выніку нараджаецца ісціна, знаходзіцца правільны адказ. Пасля кожнай казкі прапануюцца задачы на падобную тэму.

На сустрэчы з Алегам Мельнікавым прысутнічала метадыст аддзела пачатковай адукацыі МГІРА Святлана Пухоўская. Яна выказала свае адносіны да дапаможнікаў аўтара:

- Чым добрыя кнігі Алега Ісідаравіча? Яны для ўсёй сям'і, і ў іх пазначаны шлях, які дазволіць дзіцяці самому навучыцца рашаць задачы, ёсць падказкі, рашэнні і адказы.

Даарэчы, Алег Мельнікаў з'яўляецца аўтарам і суаўтарам шэрагу іншых кніг: "Развіццёвая матэматыка для школьнікаў", "Інфарматыка. Метады алгарытмізацыі" для 10 -11 класаў, "Тэорыя графаў у алгарытмах і праграмах", "Тэорыя графаў у займальных задачах", "Тэорыя графаў для настаўнікаў, для школьнікаў… і не толькі!", "Алгарытмы на графах. Выкарыстанне мовы PYTHON", "Матэматычнае мадэляванне ў сістэме MAPLE", "Мадэляванне аптымізацыйных задач у сістэме MAPLE", "Элементы дыскрэтнай матэматыкі ў займальных прыкладах і задачах".

*Надзея ЦЕРАХАВА.*

# Сольскай школе прысвоілі імя паэта Мар'яна Дуксы

Сольскай сярэдняй школе Смаргонскага раёна прысвоена імя беларускага паэта Мар'яна Дуксы (1943-2019). Мар'ян Дукса з сям'ёй усё жыццё пражыў у Солах. Каля 20 гадоў ён адпрацаваў у школе настаўнікам. Стаў ганаровым грамадзянінам Смаргоні.





Нарадзіўся пісьменнік у 1943 годзе ў вёсцы Каракулічы Мядзельскага раёна Менскай вобласці. Рана страціў бацьку. У 1958-1960 гадах займаўся ў Свірскім вучылішчы механізацыі сельскай гаспадаркі. Закончыўшы яго, працаваў у калгасе ўлікоўцам трактарнай брыгады, адначасова вучыўся завочна ў сярэдняй школе. У 1969 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ. З 1969 года працаваў настаўнікам у вясковай школе. На старонках рэспубліканскай перыёдыкі выступаў з вершамі з 1960 года. Выдаў вершаваныя зборнікі "Спатканне" (1967), "Крокі" (1972), "Станцыя" (1974), "Прыгаршчы суніц" (1976), "Забытыя словы" (1979), "Зона супраціўлення" (1982), "Твая пара сяўбы" (1985), "Заснежаныя ягады" (1989), "Горн прымірэння" (1993). Аўтар кніг для дзяцей "Зялёны акварыум" (1980), "Світаюць сосны" (1987) і іншых.

*Наш кар.*





# Шчучынскі паэт адзначае юбілей




16 верасня беларускі паэт і публіцыст Рычард Бялячыц адзначыў 70-годдзе. Родам ён з вёскі Стаўбуры Астравецкага раёна. Але з 1987 года жыве ў Шчучыне. Скончыў Варнянскую сярэднюю школу, літаратурна-музычнае аддзяленне Менскага педагагічнага інстытута імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам, намеснікам дырэктара Цудзенішскай школы Ашмянскага раёна, затым у сваёй роднай школе. Пэўны час працаваў інспектарам школ аддзела адукацыі Астравецкага раёна, загадчыкам аддзела пісем рэдакцыі газеты "Астравецкая праўда", у рэдакцыі шчучынскай райгазеты "Дзянніца".

Творчы набытак Рычарда Бялячыца важкі і грунтоўны. Вершы спрабаваў пісаць яшчэ ў школьныя гады, а друкавацца, як паэт, пачаў з 1979 года ў розных перыядычных выданнях. Зараз ён з'яўляецца аўтарам кніг "Сакавіцкае крыло" (1988), "Прасветлінка"(1995), "Міг выратавання"(2001), "Вочы малітвы" (2005), "Святлом і ценем"(2009), паэмы "Бераг маўчання", тапанімічнага аповеду "На радзіме Котры" (2009) і іншых. Паэт са Шчучыншчыны Рычард Бялячыц імкнецца далучыць чытача да філасофскіх разваг над жыццём, што хвалююць самога аўтара і яго лірычных герояў, якія кахаюць, дбаюць і жывуць. Адметная рыса яго паэзіі - гэта шчырасць і адкрытасць. Кожная кніга Рычарда Бялячыца - гэта размова паэта пра мінулае і сучаснае, пра самае дарагое і блізкае сэрцу, пра часовае і вечнае. Вершы поўныя шчырасці і арыгінальнасці, вызначаюцца глыбінёй думкі, прыгажосцю і непаўторнасцю паэтычных вобразаў. Паэт знаходзіць яркія вобразы, асаблівыя, шчырыя словы, якія ідуць ад сэрца, не пакідаюць чытачоў абыякавымі. Трэба быць сапраўдным паэтам, каб напісаць такія хрэстаматыйныя радкі:




То раздольна песням,
То зацішна.
Голас то душы,
То салаўёў.
Ты сама, Радзіма,
Вершы пішаш,
Толькі ставіш
Прозвішча маё.

Рычард Бялячыц з'яўляецца лаўрэатам Гарадзенскай абласной прэміі імя Аляксандра Дубко і літаратурнай прэміі імя Анатоля Іверса. Шчыра віншуем спадара Рычарда з юбілеем. Жадаем яму здароўя, новых кніг і творчых сустрэч!

***Рэдакцыя.***





# У Менску выдалі архіўныя слоўнікі беларускай мовы

У Менску пабачыла свет кніга Андрэя Шула-Сянчэўскага, у якой упершыню надрукаваныя слоўнікі Івана Грыгаровіча, Фёдара Шымкевіча і Аляксандра Станкевіча, укладзеныя аўтарамі ў XIX стагоддзі, паведамляе Bellit.info.

15.09.2023, 16:45 У Мінску выдалі архіўныя слоўнікі беларускай мовы




Як тлумачыць аўтар-укладальнік Андрэй Шула-Сянчэўскі, у выданні змешчаны артыкул з археаграфічным аналізам рукапісу, уступ да слоўніка Івана Грыгаровіча і сам слоўнік на літары А, Б, В (толькі гэтыя літары слоўніка захаваліся да сёння).

Таксама тут жа апублікаваныя дадаткі да слоўніка (сярод якіх незавершаны і нявыдадзены слоўнік Аляксандра Станкевіча - 553 словы) і асобны рукапіс “Збору словаў літоўска-беларускай гаворкі Фёдара Шымкевіча” (2163 словы). У кнізе 416 старонак.

Карткі, матэрыялы і рукапісы былі даступныя даследчыкам у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, але ніколі не выходзілі асобным выданнем.

Наклад кнігі - 99 асобнікаў. Выданне будзе даступнае для пакупнікоў "Акадэмкнігі" ў Менску.

***Наш кар.***

# Надрукаваны адрыўны каляндар "Наш край" на 2024 год




У менскім выдавецтве "Беларусь" выйшаў з друку беларускамоўны адрыўны каляндар "Наш край" на 2024 год. У календары выдаўцы прапануюць адправіцца ў падарожжа па беларускім краі. Тут надрукавана шмат цікавага пра Беларусь, яе гісторыю, культуру, прыроду. Каляндар дапаможа прасачыць юбілейныя даты вядомых суайчыннікаў - юбіляраў 2024 года: вучоных, пісьменнікаў, акцёраў, мастакоў, архітэктраў, якія жылі ў розныя часы і ўслаўлялі наш край. Сярод юбіляраў у наступным годзе - Васіль Быкаў (100 гадоў), Еўфрасіння Полацкая (920 гадоў), Адам Гурыновіч (155 гадоў), Мікола Хведаровіч (120 гадоў), Аляксандр Ельскі (190 гадоў) і іншыя. Значнае месца ў выданні адведзена традыцыйным абрадам і звычаям. Не засталіся па-за ўвагай і прадстаўнікі флоры і фаўны з Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь. Друкуюцца ў календары таксама парады псіхолагаў, педагогаў, садаводаў і агароднікаў. Ёсць таксама рэцэпты прыгатавання страў нацыянальнай і сусветнай кухні. Змешчаны ў "Нашым краі" вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Міхася Чарота, Петруся Броўкі і іншых паэтаў. Каляндар надрукаваны накладам 4 тысячы асобнікаў.

***Наш кар.***





*Навіны Германіі*

# Шольц назваў галоўныя пручыны эканамічных праблем Германіі




Олаф Шольц, канцлер Германіі, заявіў, што праблемы ў эканоміцы ФРГ звязаны з ростам цэнаў на энергетычныя носьбіты і аслабленнем экспартных рынкаў. Аднак палітык не лічыць, што гэтыя складанасці можна вырашыць пры дапамозе крэдытаў. Пра гэта са спасылкай на газету Welt am Sonntag інфармуе ТАСС.

- Нельга не заўважаць, што рост [эканамічных паказчыкаў] у нас слабы. Галоўная прычына заключаецца ў тым, што некаторыя з нашых экспартных рынкаў становяцца слабей, першым чынам Кітай. Гэта ўплывае на нашу краіну, якая арыентуецца на экспарт. Адначасова з гэтым мы маем справу з высокай інфляцыяй і ростам цэнаў на энерганосьбіты, - сказаў канцлер, адзначыўшы, што гэта наступства ўплыву сітуацыі вакол Украіны.

- Таксама ўсё яшчэ адчуваецца парушэнне ланцужкоў паставак у пандэмію, - падкрэсліў Шольц.

Адначасова з гэтым Шольц рэкамендаваў "не гаварыць пра адзін толькі крызіс".

- У адваротным выпадку мы не ўбачым добрых момантаў, - сказаў канцлер ФРГ.

У іх ліку ён назваў будаўніцтва заводаў па вытворчасці акумулятараў, інвестыцыі ў развіццё электрамабіляў і вытворчасць паўправаднікоў.

Канцлеру ФРГ нагадалі пра нядаўні артыкул у газеце Economist, у якой Германію назвалі "хворым чалавекам у Еўропе".

- Гэтая англасаксонская газета крытыкуе нас за нібы нямецкую апантанасць тым, каб не браць на сябе бясконцыя даўгі, - адказаў на гэта канцлер. - У тэксце, па сутнасці, нам рэкамендуюць браць дадатковыя пазыкі на суму ад €100 млрд да €200 млрд у год. Мой адказ - не. Бясконцыя пазыкі не вырашаюць нашых праблем, а ствараюць новыя.

***Паводле СМІ.***

*Фота: Pixabay / носіць ілюстрацыйны характар.*

# У Мюнхене адкрыўся 188-мы па ліку піўны фестываль Актоберфэст

*16 верасня ў Мюнхене на знакамітым лузе Тарэзіенвізе адкрыўся 188-мы піўны фестываль Актоберфэст, які працягнецца па 3 кастрычніка. Тысячы наведвальнікаў у казачнае надвор'е штурмавалі велізарную тэрыторыю і апынуліся ў піўных намётах. У 12.00 па мясцовым часе адбылося афіцыйнае адкрыццё, была адкрыта першая бочка піва, паведамляе партал BR.de.*




Калі неўзабаве пасля 9:00 адкрыліся ўваходы, многія пабеглі, каб заняць месца ў намёце. Тысячы людзей сабраліся на фестывальнай пляцоўцы перад афіцыйным адкрыццём Актоберфэсту.

Па старадаўняй традыцыі першая бочка піва на Актоберфэсце заўсёды падаецца ў шатры Шатэнхамель. Бургамістр Мюнхена Дитер Райтэр пад захопленыя воклічы выбіў затычку двума ўдарамі малатка. Затым раздаўся гучны крык: "O" zapft ist!", што азначае "Адкаркавана!". Першы кухаль быў перададзены прэм'ер-міністру Баварыі Маркусу Зедару.

Чакаецца, што шэсць мільёнаў наведвальнікаў прыбудуць на свята да 3 кастрычніка. Прагноз надвор'я лепшы, чым летась, калі яго наведалі каля 5,7 мільёна чалавек. Адмысловых засцярог з нагоды каронавіруса больш няма. Гэтым разам свята працягнецца 18 дзён, што на два дні даўжэй, чым звычайна. Яно было падоўжана пасля першых выходных кастрычніка да 3 кастрычніка - аўторка.

На тэрыторыі фестывалю ўсталяваны 17 вялікіх піўных шатроў і два дзясяткі намётаў паменш. Таксама пабудавана 200 шапікаў і 160 забаўляльных атракцыёнаў.

Літровы кухаль піва (Mass) каштуе ад 12,60 да 14,90 еўра, што ў сярэднім, прыкладна, на 6,1 адсотка больш, чым у мінулым годзе. Упершыню на народным свяце будуць усталяваны чатыры дыспенсеры з бясплатнай пітной вадой. Сярэдняя цана літра сталовай вады ў піўных намётах складае каля 10 еўра.

***Аляксандр Саможнеў.***





*Сяргей Панізьнік*

# ВЯДУЦЬ ПАДЗЕІ - ШУКАЦЬ НАДЗЕІ!

Дні маладзеюць,
нам Радасць дзеляць
і вельмі просяць,
каб Лета ў Восень
не закудзеліць,
каб на вяслу
трымаць Вясну -
Ж Ы Ц Ц Ё лілеіць!

**1**

**"І сіла ўваскрэсне, уваскрэсне надзея…***

У гонар Канстанцыі Антонаўны Буйло, яе 130-годдзя з дня нараджэння (14.01.1893 - 5.Х.1986) існуе ў Менску выстава "Люблю наш край - старонку гэту". У 17 гадоў юная паэтэса пісала: "Люблю народ наш беларускі…" А яе зборнік "Курганная кветка" быў выдадзены ў 1914 г. у віленскай друкарні Марціна Кухты: рэдактар Янка Купала, вокладку аформіў Язэп Драздовіч.

Выдавецтва тое амаль гістарычнае. І Максім Багдановіч згадваў: "…Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты".

Вядуць падзеі шукаць надзеі - і дні маладзеюць! Да названага 130-годдзя далучаю 45-годдзе. З сынам Канстанцыі Антонаўны я пазнаёміўся ў Ялце 3 ліпеня 1978 года. Яўген Вітальевіч Калечыц сядзеў на лаўцы і сам звярнуў на мяне ўвагу, калі я размаўляў з яго суседам. Адбылася цёплая сустрэча з Заслужаным будаўніком РСФСР. Я уважліва слухаў яго навуковыя развагі пра аналіз-сінтэз-дэдукцыю…Потым Яўген, як з эстрады прамаўляў свае вершы - стылізацыю пад Амара Хайяма. Агучыў мне яшчэ некалькі паэтычных радкоў, калі ўзгадалі лёс яго мамы:

Я помню Купалу простым и скромным.
Слегка серебрился висок поседелый.
И даже не верилось, как огромно
Было его великое дело…

Пад канец нашай прыязнай ялцінскай гутаркі я ад Яўгена Вітальевіча дазнаўся, што сястрой Костачкі (так называў Іван Дамінікавіч Канстанцыю Антонаўну), была Інна-Міхаліна. Яна ў 1914 годзе служыла вайсковым лекарам каля Парафіянава. Там ёй і палонных чэхаў даводзілася лекаваць, іх падкармліваць. Даведка падказала, што гэта было ў Сітцаўскім сельсавеце Докшыцкага раёна.

Дазнаўся я і пра такі дароўны надпіс: *"Мілай Костцы на памятку. / Я. Купала./ Масква, 2/XII - 36 г."*. Гэта аўтограф Івана Дамінікавіча на яго зборніку "Под новым солнцем" з выдавецтва "Художественная литература", Масква, 1936 г.

А яшчэ ў 1924 г. Канстанцыя Буйло (Буйла) усклікала: "Нам светачамі быць!", запрашала ў вершы дакрануцца да светлай вялікай ідэі:

- З нам і, жывымі, гэй, гэй, працаваць!
І сіла ўваскрэсне, уваскрэсне надзея
Век жыць! Крэпка верыць!
Тварыць і кахаць!

* * *

Вельмі папулярнай была яе песня "Люблю мой край". Гучала на ўсю краіну:

*"Усё ў тым краі сэрцу міла,*
*Бо я люблю край родны мой".*

Пра гэта я і пісаў у артыкуле "Чым толькі песня можа быць" /"Літаратура і мастацтва", 13.01.1984 год.

---



***В. Дзевіскіба. Партрэт Сяргея Панізьніка з Ефрасінняй Полацкай***



***Эва Панізьнік***

Зноў Маладзік ускінуў рожкі
на тую песню, што вяла
да незараслае дарожкі,
да незабытага сяла.



№ 38 (90) 20 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

**2**

**На крыжах дарог**

Часта ахвяраваў свае фінансаыя сродкі манастырам у Дзісне і Міёрах Самойла Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч.

Даты жыцця Сімяона Полацкага: 12.XII.1629 - 25.VIII.1680. Вучыўся ў Кіеве, Вільні. Вялікі творчы наробак грамадскага дзеяча, педагога, філосафа, рускага і беларускага духоўнага пісьменніка - паэта, драматурга, перакладчыка, аднаго з самых вядомых беларускіх асветнікаў XVII стагоддзя...



Во славꙋ Гда Бга въ Трцѣ лицъ, въ
единствѣ естества славимагѡ, Ѱалтирь
црѧ и пррока Двда, художествомъ
рифмотворнымъ равномѣрныѧ слоги, и
согласноконечнѡ, по различнымъ стихѡвъ
родѡмъ преложенна: Повелѣнїемъ благо-
честивѣйшагѡ великагѡ гдрѧ нашегѡ црѧ,
и великагѡ кнѧзѧ Федѡра Алеѯїевича,
всеѧ великїѧ, и малыѧ, и бѣлыѧ
рѡссїи самодержца: Благословенїемъ же
въ духовномъ чинѣ Отца егѡ и богомольца,
великагѡ гдна свѧтѣйшагѡ Кѵръ Їѡакїма,
патрїарха московскагѡ, и всеѧ рѡссїи:
Издадесѧ в царствующемъ великомъ градѣ
москвѣ, въ тѵпографїи верхнеи:
въ лѣто ѿ сотворенїѧ мїра, ӡрпи:
Ѿ рождества же по плоти Бга Слова,
ахп: Їндикта, г: Мца апрїллїа.

Стїхотворна Їеромонахъ
Сѵмеѡнъ Полоцкїи.

*Архіўны адбітак верша Сімяёна Полацкага*

Яго дапамога спрыяла існаванню бажніц, манастыроў і на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

---------------------------------------------------------------

Бацькаўшчына Алтарная - наша любоў,
Промнікі слоў, зямля сяброў - на крыжах дарог.
Дом, дзе жывём, - у спадчыну нам ад вякоў.
Родны парог для нас бярог валадар Айчыны - Бог.

**3**

**Вузялковы каляндар**

Параска Танайна са Слабады выйшла замуж за Анупрэя Падабыцьку з вёскі Латышы. Калі прамаўляць пра радню па кудзелі, то Параска - мая прабабка. Нарадзілася ў 1858 годзе, а пакінула свет у 1943-м. Мяне, гадавалага, яшчэ паспела палашчыць, пакінуць запаветныя зычэнні.

А запомнілася яна насельніцтву нашаму тым, што мела так званы "Вузялковы каляндар". Бабуля навучылася ад продкаў уплятаць у пражу вузялкі - хатнія добра захаваныя адзнакі рэальных падзей.

Вось сусед прыходзіць да яе з пытаннем: "А калі мне можна сеяць жыта?" Параска развязвае хустачку, раскідвае ніткі з вузялкамі, "прачытвае" іх і называе спрыяльны дзень месяца для сяўбы.

Я зацікавіўся такой праявай народнай памяці. Аднаго разу ў Латвіі спрабаваў прачытаць часопіс "Родник" №3, 1990 г. Пачаў углядацца ў артыкул Віктара Гравітыса "Хорошо забытое старое. (О некоторых народных арнаментальных этапах)". Зразумеў, што ўплеценае ў пражу вузялковае пісьмо календароў - гэта захаваныя сямейныя хронікі, у якіх ёсць адзнакі аб рэальных падзеях мінулых часоў у хатнім гаспадарчым жыцці.

Застаецца адзначыць, што ад Парасці і Анупрэя нарадзілася ў 1889 годе мая бабуля Ганэта. Ад яе і Селюна Грыгорыя Іванавіча нарадзілася ў 1914 годзе мая мама Ганна (дома яе звалі Нюрай).

Гартайце старажытныя пісьмёны,
Шукайце нашы даўнія імёны.
Паўлінка, Каралінка і Параска…
Народнае імя нібыта казка!
У закаханні карані і кроны:
Гучаць Айчыны крэўныя імёны.

**4**

**"Прымаць новую веру - грэшна…"**

У 1942 годзе я прымаў хрост у Лявонпальскай царкве, якая яшчэ мела выгляд уніяцкай. Вельмі складаная гісторыя гэтай бажніцы. Вядома, што ў 1596 годзе была абвешчана Берасцейская унія, вера стала называцца ўніяцкай або грэка-каталіцкай. Да канца 18-га стагоддзя 75% жыхароў на беларускай зямлі былі ўніятамі (80% у сельскай мясцовасці).

Богаслужэнне вялося па-беларуску. Каліноўскі ў "Мужыцкай праўдзе" адзначаў, што ўніяцкая царква стала нацыянальнай царквой беларускага народа.

У 1840 годзе пачаўся бунт лявонпальскіх вернікаў супраць пераводу з уніятаў у праваслаўе. Доўжыўся 4 гады, да прыезду жандармаў.

А ў маіх Бабышках жыла амаль стогадовая Сцепаніда, мама Альжбеты Фролаўны Панізьнік. Захавалася ў памяці яе фраза, прамоўленая ў адказ за папрок, што яна ўсё яшчэ пачуваецца ўніяткай: "А прымаць новую веру - грэшна!"

---------------------------------------------------------------

Падковамі пазначыць хачу мяжу зімы.
Нас нельга перайначыць: калі ўжо **мы**, то - **мы**!

5
**На Мхах**

Рака не мяжа… Баравую карону.
Агучылі сэрцы і продкаў званы.
Хто з мёрскай зямлі? Уплятайцеся ў крону:
Апёрся камель на падкову Дзвіны.




*Падкова Дзвіны*

Сястра Ніна расказала, як наша бабулька Ганэта, мама нашай мамачкі Нюры, два тыдні пад вадой хавалася, дыхала праз чарацінку. Балота Мох раскінулася недалёка



*Альжбета Панізьнік*

ад Міёраў. Там у часы вайны карнікі на лыжах пачалі паляванне на партызанскія сем'і. У 1944 годзе ішла жорсткая блакада партызанскай зоны.

А было так: бабуля Ганэта, калі ўбачыла карніка,то паспрабавала схавацца пад карчом у балотнай яме. Дыхала праз чарацінку. Карнік стрэліў і ткнуў штыком пад корч. Але не трапіў у схаванае ў багне цела. І ўсё ж наша бабуля стала пасля вайны калекам, бо яе слуп пазванкоавы прастыў у тым балоце на Мхах.

А там загінуў родны брат нашага бацькі - Мікалай з жонкай Вольгай, дзецьмі Федзем і Верай. Пякучыя страты былі і ў бабулі Альжбеты Панізьнік. Загінуў ад карнікаў яе муж Мітрафан - стрыечны брат нашага Сцяпана, і яе брат Сімон з дзецьмі Надзяй і Верай.

Толькі побач нашай бабулі Ганэты загінула 5 чалавек за два тыдні пакутаў. А ўсё таму, што сын Ганэты - Сялюн Сяргей Рыгоравіч, 1920 года нараджэння, служыў у партызанах. Быў загад уцякаць родзічам партызанаў на тое балота, каб усёй сям'і не быць расстраляным на парозе дома.

Сястра Ніна прыпомніла ўспаміны адной блакаднай жанчыны: "Загарэліся нашы Гулякі ззаду, спераду, з бакоў… А дзе было нам падзецца? Не ўсім удалося прыхавацца ў багне-дрыгве таго страшэннага балота Мох…".

* * *

З таго балота Мох выцякае мая рачулка Волта. Яна ў маім вершы прасвечваецца сваёй рыжаватай вадою:

Вунь рака: завецца Волта.
Ты прысядзь, нагамі боўтай
ў рыжаваценькай вадзе…
(Там цяпер няма людзей
пасля карных тых падзей…)

6
**"Як цар пад Рыгу…"**

Чужое ем - і глух, і нем…
А калі маё ядуць - у мяне слёзы цякуць.

Бацька мой у Бабышках пра посную вячэру гаварыў так: "Яглы, гэта калі не еўшы спаць ляглі". Пра слова ***яглы*** (націск на другім складзе) я даведаўся ў пражскай краме, калі прачытаў на пакунку: "Yahly" - націск на першым складзе. Гэта проса - для поснай яды...

Пра нішчымніцу бацька "падарыў" і такую прымаўку: "З'ездзіў, як цар пад Рыгу". Цару Аляксею Міхайлавічу ў 1656 годзе не пашанцавала: пад Рыгай пацярпеў паразу ад шведаў. Цар адпраўляўся ў Маскву па гістарычнай Дзісеншчыне, у злосці выпальваючы па дарозе сядзібы. Вось чаму прымаўка: "З'ездзіў, як цар пад Рыгу" і не забывалася як трагедыйная падзея, і засталася ў памяці майго бацькі Сцяпана. І калі яго сусед, пабыўшы ў доўгай дарозе, вяртаўся на пустой падводзе, бацька кпіў з яго: "З'ездзіў, як цар пад Рыгу".


№ 38 (90) 20 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf




*В. Дзевіскіба. Партрэт Сцяпана Panізьніка*

Я вярнуся на тваё, любоў, святло
Без ільдзіначкі на сэрцы, без віны…
І шчаслівае прытуліцца вясло
Да агеньчыка на беразе Дзвіны.

**7**
**Папар - медавар**

Вам адкрыўся Лета дар:
тут - Панізьнік, там - Папар:
з імі лёзны сын Сцяпана
пачуваецца за Пана*.
Бог лясоў пільнуе броды:
абаронца ён прыроды.
У Еўропе ўсе народы
маюць Пана ўзнагароды
за вясёленькі дзірван,
за духмяненькі дыван
росных кветак на папары…
Ясны ў беларусаў твар!
Пан сказаў: “О, мой Папар!
Ты ў натхненні - ураган,
паднябесны мой арган.
Ты і смелы медавар!
Сам знаходзіш ты нектар,
дзе гушчар, дзе антыквар…
Лекар мой і мой званар.



*Купала Р. Фралова*

Ты й вучоны сакратар, -
каб Купала-гаспадар
ведаў: зніклі кашавары,
хто хацеў паэту кары…
Новы час у нас, млынар!
Ты служы яму, Папар!”
- Я й служу, бо грамацей -
і не толькі між дзяцей.

Ведае сябрук дарослы:
вершы ткуць Купалы кросны.

*Пан - бог прыроды, лясоў, пладароднасці. 18.02.2015 г.

---

P.S.
Мой лірычны, але не радаводны паслугач :
Sv. Poniznik - franievac, cudotvorac (1582-1637 ).
Даведка пра прапаведніка-францысканца з манастырскай кнігі пропаведзяў горада Шырокі Брієг у Босніі і Герцагавіне.

* * *

Кляштар прапаведнікаў-францысканцаў быў і ў Дзісне, дзе магла з’явіцца прызыўка-мянушка "Панізьнік".

---

Усё, што прамаўляецца,-
да скарбаў дабаўляецца.
Дзяржава праяўляецца!
З ёй воблікі ўсіх тых,
Хто стаў нам за святых
на кнігах залатых.

*Жнівень 2023 г.*





# Аўтару "Запісак Самсона Самасуя" - 130



13 верасня споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка-сатырыка і краязнаўца Андрэя Мрыя (Андрэя Шашалевіча, 1893-1943).

Андрэй Мрый нарадзіўся на Краснапольшчыне ў сям'і валаснога пісара. Атрымаў семінарскую адукацыю. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны, а потым, пасля рэвалюцыі, добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі, з 1921 па 1926 год працаваў настаўнікам у Краснаполлі (выкладаў гісторыю і французскую мову). Разам з братам Васілём, у будучым вядомым беларускім драматургам, сястрой Настассяй - таленавітай мастачкай і яе мужам скульптарам Аляксандрам Грубэ стварыў у раёне народны тэатр, арганізаваў у школе драматычны і літаратурны гурткі. У гэты час з'явіліся і першыя выступленні Андрэя Мрыя ў друку. Пачынаў ён як селькор, з газетных нататкаў, прысвечаных розным падзеям вясковага жыцця. Збіраў народную лексіку, пасылаў яе ў Слоўнікавую камісію Інбелкульта ў Менск. У жніўні 1926 года Андрэй Мрый пераехаў у Менск, дзе стаў супрацоўнікам часопіса "Наш край", а потым інспектарам Цэнтральнага бюро краязнаўства Беларусі (1926-1930). Яркай з'явай ранняй творчасці Андрэя Мрыя з'яўляецца рэалістычнае апавяданне "Няпросты чалавек" (1927). Пісьменнік упершыню ў беларускай літаратуры смела паказаў змрочныя бакі гарадскога жыцця - распуснасць і начныя гулянкі. У 1929 годзе ў трох нумарах часопіса "Узвышша" быў надрукаваны сатырычны раман Андрэя Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя" (поўнасцю апублікаваны толькі ў 1988 годзе). Твор адразу заваяваў папулярнасць у чытачоў, а імя галоўнага героя стала мянушкаю абмежаваных кар'ерыстаў і прыстасаванцаў. У рамане аўтар паставіў перад сабой задачу паказаць тыповага выскачку Самасуя, які ў імя кар'еры і славы назаўжды пакідае родную хату, забываецца пра бацькоў і пачынае займацца тым, да чаго не меў ні прызвання, ні схільнасцяў. У творы шмат яркіх народных прымавак і выслоўяў, якія дапамагаюць аўтару больш поўна раскрыць народныя характары. Значэнне гэтага твора далёка перасягае значэнне творчасці аднаго пісьменніка. Паводле рамана пастаўлены тэлефільм "Пратарчака жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя" (1990). Адраджэнню нацыянальнай культуры, фальклору, народных звычаяў прысвечаны яго падарожныя нарысы і краязнаўчыя нататкі "Па Гомельскай акрузе", "На кірмашы", "Асвета масаў у Краснапольскім раёне", "Цар Максімілян" у вёсцы" ды іншыя творы. Для іх характэрны яркая сатырычная накіраванасць, натуральнасць, складаныя жыццёвыя сітуацыі, рэальная праўда жыцця, паказ няпростых чалавечых характараў. У 1934 годзе пісьменнік быў рэпрэсаваны. Пакаранне адбываў у сібірскіх лагерах. Пра свае "блуканні па пакутах" літаратар балюча расказаў у лісце "Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну" (апублікаваны ў 1988 годзе). Навелы, аповесці і раман з лагернага жыцця "Жывы дом", напісаныя ў ссылцы, канфіскаваны і пакуль не выяўлены. Праз дзевяць гадоў Андрэй Мрый быў вызвалены з лагера, але, цяжка хворы, дамоў не даехаў. Памёр ён 8 кастрычніка 1943 года. Рэабілітаваны ў 1961 годзе.






*Андрэй Мрый з жонкай і сынам, 1930 г.*

***Паводле СМІ.***



Станіслаў Лорэнц

# Віленскі альбом

## (Вільня, творчая інтэлігенцыя, краёўцы)

*(Працяг у наступным нумары.)*

У красавіку 1929 г. я быў ужо дастаткова дасведчаны, каб даць інтэрв'ю Стэфану Клачыньскаму з "Кур'ера Віленскага" аб маіх далейшых планах па кансервацыі помнікаў гісторыі. У першую чаргу я згадаў пра рэстаўрацыю посттрынітарнага касцёла Езуса на Антокалі, пабудаванага на рубяжы XVII - XVIII стст. Гэты прыгожы храм з вялікім купалам, меў унутры шыкоўную ляпніну, якая ў мастацкім сэнсе нібы працягвала тую, якая ўпрыгожвала касцёл Святых Пятра і Паўла на Антокалі. У 1864 г. Мураўёў перарабіў гэты касцёл на царкву св. Міхаіла ўніверсітэцкай дэрматалагічнай клінікі - царква выкарыстоўвалася, як шпіталь. Мы вырашылі пачаць рэстаўрацыю з выдалення рускіх цыбулін з абедзвюх вежаў і ліхтароў купала, што было зроблена пад кіраўніцтвам праф. Клоса ў 1929 г. Форма даху над усім купалам была адноўлена да першапачатковага выгляду, заснаванага на старых выявах. Праца над посттрынітарным касцёлам была сустрэта грамадствам вельмі прыхільна. Мураўёўскія дадаткі ліквідавалі, прыгожаму барочнаму храму надалі належны выгляд.

З рэлігійных помнікаў у інтэрв'ю я згадваў і касцёл Усіх Святых па вул. Рудніцкай, дзе я праектаваў кансервацыю каштоўнай барочнай ляпніны ў прасбітэрыі, і старую царкву св. Барыса і Глеба (па-базыльянскую) у Навагрудку. З задавальненнем успамінаю, што ўжо ў тыя першыя месяцы я зрабіў некаторыя крокі, каб пачаць работы па кансервацыі ў цудоўным касцёле ў стылі ракако ў Беразвеччы, які знаходзіўся пад апекай ваеннага начальства. Гэты цікавы базыльянскі храм несумненна з'яўляўся творам найвялікшага віленскага архітэктара сярэдзіны XVIII ст. Яна Крыштафа Глаўбіца, пабудаваны ён у 1756-1763 гг. і пасля скасавання уніі паступова пачаў прыходзіць у заняпад. У 1901 г. царкоўна-манастырскі комплекс быў перададзены праваслаўным манашкам. Пасля вайны тут размяшчаўся Корпус аховы памежжа. У 1930 г. у ходзе кансервацыйных работ была выяўлена паліхромія сцен у стылі ракако. У наступныя гады праца ішла павольна. На жаль, пасля вайны комплекс зноў прыйшоў у заняпад і быў зруйнаваны.

Сярод жывапісных твораў адзначу насценныя і скляпеністыя роспісы Вастрабрамскага касцёла св. Тарэзы. У 1928 г. пачалася кансервацыя інтэр'еру касцёла і аб'яўлены яе працяг. А ў снежні 1930 г. работы па добраўпарадкаванні, якія праводзіў Марыян Сланецкі, былі завершаны. Касцёл выглядаў і выглядае цудоўна. У той час паміж мной і вастрабрамскім пробашчам кс. канонікам Савіцкім усталяваліся вельмі добрыя адносіны. Ён мне часам скардзіўся: "Ты ў касцёле паводзіш сябе прыстойна, а Сланецкі, там, на рыштаваннях, заўжды на галаве мае берэт (таму што ён быў зусім лысы), і я падазраю, што часам нават курыць цыгарэты". Кс. Савіцкі некалькі разоў запрашаў мяне да сябе на вячэру. Нейк казаў мне: "Ты - евангеліст - ну, гэта дрэнна. Але самае горшае, што ты недавярак". Я ціха выслухаў гэтыя заўвагі. Я таксама сябраваў з сакрыстыянам. Ён піў не гарэлку і не самагонку, а дэнатурат, у які яшчэ нешта падліваў. Пасля такога напою ўнутры ўсё буркатала. Тады ён крычаў: "Вось, бачыш, чорт уцякае", - і настойліва раіў мне пакаштаваць трунак, бо толькі такая гарэлка мае сапраўдны смак! Але я не хацеў рызыкаваць.

У інтэрв'ю "Кур'еру Віленскаму" я абвясціў, што буду дамагацца, каб Гарадскі архіў (Вацлаў Студніцкі) выехаў з былога францысканскага касцёла, канфіскаванага Мураўёвым у 1864 г., і вярнуў будынкі ордэну. Праз некалькі гадоў так і сталася, і францішкане вярнулі свайму касцёлу першапачатковы выгляд.

Самай важнай у маім інтэрв'ю была інфармацыя пра шматлікія кансервацыйныя работы ў Троцкім замку. Узгадваліся таксама і руіны на Замкавай гары ў Навагрудку. Абвешчаны быў конкурс на аздабленне руін вежы на Замкавай гары ў Вільні.

У красавіку 1929 г. я прачытаў серыю лекцый пра Вільню - мы чакалі вялікага турыстычнага руху ў Вільні ў сувязі з паездкамі, арганізаванымі з нагоды Агульнай нацыянальнай выставы ў Познані, я таксама ініцыяваў цыкл лекцый пра Вільню з удзелам прафесараў Рушчыца, Клоса, Рыдзеўскага, Ліманоўскага, кс. Слядзеўскага і дыр. Студніцкага

Нарэшце, прыкладна ў той жа час я звязаўся з Антонам Луцкевічам, куратарам Беларускага музея імя Яна Луцкевіча, які знаходзіўся ў пабазыльянскіх мурах па вул. Вострабрамскай. З літоўцамі я не мог наладзіць інстытуцыянальныя сувязі, бо ў іх не было цэнтра, з якім можна было ўсталяваць кантакт.

Цяпер, у красавіку 1929 г., я адчуў, што ў маім жыцці адбылася карэнная перамена. Перада мной адкры-

[12] Міхал Крыспін Паўлікоўскі (1893, Ігуменскі павет - 1972, Гаваі, ЗША), празаік, журналіст і мемуарыст. Адносіўся да палітычнай групоўкі "віленскіх кансерватараў". Атрымаў празванне "Храніст Вялікага Княства Літоўскага". Стрыечны брат рэдактара газеты "Слова" Станіслава Мацкевіча. - *Л. Л.*

лася шырокая дарога, і я атрымаў усе магчымасці праявіць ініцыятыву не толькі ў плане кансервацыі помнікаў, але і ў розных іншых галінах культуры. Я каментаваў чужыя ідэі, надаваў ім форму, і ад мяне ў шмат чым залежала рэалізацыя праектаў. Я адчуваў сябе свабодным, вольным і патрэбным. Мне толькі што споўнілася 30 гадоў, і я быў шчаслівы.

У наступным месяцы для мяне вялікім вопытам стаў удзел у чатырохдзённай вандроўцы ваяводы Рачкевіча па чатырох паветах ажно да Заходняй Дзвіны, да мяжы з Латвіяй. Асабліва мяне зацікавіў Браслаўскі павет, у тым ліку Друя і Лявонполь на Дзвіне. Таму, калі летам 1929 г. Цэнтральная інвентарная ўправа пры Міністэрстве распачала палявыя работы, я прапанаваў уключыць у праграму і Браслаўскі павет. Летам 1929 г. па павеце мы ездзілі разам: Юліуш Клос, Ян Булгак і я. У той час Булгак зрабіў папярэднюю фатаграфічную інвентарызацыю найважнейшых помнікаў, а мы з Клосам дамовіліся аб тым, якія з помнікаў архітэктуры трэба старанна абмераць. Нашым апорным пунктам стала Друя, дзе мы здымалі вялікі пакой на першым паверсе драўлянага дома з балконам. Мы вырашылі, што ў наступным годзе пачнём з Друі. Так яно і здарылася. У 1930 г. я даручыў Вітольду Кяшкоўскаму кіраўніцтва ўсёй інвентарызацыяй, а Клос са сваіх студэнтаў сабраў каманду для вымярэння, якой сам і кіраваў. На жаль, завяршыць інвентарызацыю помнікаў Браслаўскага павета не ўдалося, і да вайны не быў выдадзены надрукаваны вопіс. Толькі ў 1938 і 1939 гг. былі надрукаваны два павятовыя інвентары, але гэта былі Наватарскі і Раўска-Мазавецкі паветы. Нашы сумесныя паездкі на ваяводскім "Фордзе" па Браслаўшчыне моцна зблізілі мяне, Клоса і Булгака. Булгак тады навучыў мяне спяваць модную кабарэтную песню:

*Я гляджу на тваё фота,*
*якое ты мне сёння даслала...*

У сярэдзіне 1929 г. пасля бліжэйшага знаёмства з помнікамі ў абодвух ваяводствах, я прыйшоў да высновы, што самая актуальная задача - выратаваць руіны сярэднявечных замкаў і не дапусціць не толькі іх наўмыснай разборкі і няправільнага выкарыстання, але і натуральнага працэсу разбурэння, які прагрэсуе з цягам часу. Я ацаніў стан усіх руін замка ў Троках, Замкавай гары ў Вільні, Навагрудку, Медніках, Крэве і Лідзе як вельмі дрэнны, нават небяспечны. Толькі ў Міры дзякуючы прыватніку ўдалося спыніць разбурэнне гістарычных руін. Самы прыгожы замкавы комплекс быў, вядома, у Троках. І ў той жа час іх прыгожае размяшчэнне на востраве і на беразе возера Гальвэ, сярод чароўнага ландшафту і ўсяго за 28 км ад Вільні, з першых дзесяцігоддзяў XIX ст. зрабіла Троцкі замак вельмі ажыўленым. Яго малявалі Смакоўскі і Маршэўскі, малявалі Шолма, Жамэ і Баляслаў Русецкі, дзве алейныя карціны з відам замкавага вострава ў 1846 г. напісаў Крысціян Брэслаўэр.

Эдвард Паўловіч ва "Успамінах з-пад Віліі і Нёмна", расказваючы пра паездку са сваімі акадэміцкімі калегамі ў Трокі ў 1839 г., піша: *"Жывучы ў Вільні, я часам дакараў сябе, што не быў у Троках; бо, па-мойму, быць у Вільні і не ведаць Трокаў - гэта ўсё роўна, што быць у Рыме і не бачыць папы"*. Прайшоўшы дарогу з Вільні ў Трокі, Паўловіч з калегамі спыніліся на начлег у карчме каля мястэчка. Выйшлі з хаты: *"Адкуль [.. .] адкрываўся чароўны від на Трокі. Гэта, бадай, адзіная кропка, з якой гэтая старая сталіца Літвы выглядае як найлепш. На пярэднім плане, уверсе, касцёл і кляштар бернардзінаў [.. .] далей старадаўні парафіяльны касцёл, потым горад, які купаўся ў водах возера, а далей сярод сіняй бліскучай прасторы, на адным з астравоў, маляўнічыя руіны замка з зубчастымі чырвонымі вежамі, напалову заслоненыя ранішнім туманам. І ўсё купалася ў яркім святле заходзячага сонца. Адзін гэты выгляд варты пілігрымкі ў сталіцу Кейстута!"*

Чырвоныя руіны муроў у маляўнічым ландшафце, азёры, экзотыка караімаў, белы палац Тышкевічаў у Затрочча на беразе возера, памяць гісторыі, вялікі князь Вітаўт, кароль Казімір Ягелончык, усё гэта зачаравала Вільню Трокамі. Таму пачатак кансервацыйных работ у Троках высока ацанілі ў Вільні. Прэса паведамляла, што: *"З-за дрэннага стану руін замка на востраве ў Троках ахоўныя органы вырашылі распачаць умацаванне руін. Гэтая праца пачалася 1 ліпеня* [1929 г.]. *Кіраўніцтва працамі было даручана архітэктару Яну Бароўскаму"*. А эндэцкі "Дзённік Віленскі" пісаў: *"Кансерватарская кантора ў Вільні з невялікім персаналам дэманструе выдатную мабільнасць. Бліжэйшымі днямі яна распачынае кансервацыю руінаў Троцкага замка, слушна скіроўваючы на гэту працу пільную ўвагу і максімум даступных сродкаў* [пакуль гэта было дзесяць тысяч злотых, якія я пазычыў на прыватны рахунак у віленскага Гаспадарчага краёвага банка]. *Трэба сказаць, што ў часы былога кансерватара Рэмера гэтыя каштоўныя руіны былі закінуты і цалкам занядбаны"*.

Асноўным меркаваннем, з якога я сыходзіў перад пачаткам работ, была думка, што замак у Троках трэба толькі захаваць, а не перабудоўваць. Гэта адпавядала агуль-апрынятым прынцыпам - руіны сярэднявечных замкаў, мёртвыя помнікі - не павінны быць рэканструяваны. Мэта іх кансервацыі - выявіць тыя фрагменты, якія схаваны ў завалах, і абараніць руіны ад далейшага разбурэння. Вядома, каб абараніць большае цэлае або захаваць тое, што знікае, у некаторай ступені можа спатрэбіцца і рэканструкцыя фрагментаў. Так, напрыклад, у замку на востраве ў Троках, у замкавай вежы, у насыпе былі знойдзены выхад са скляпення брамы і прыступкі ўваходных праёмаў. З-за таго, што на іх абапіраюцца руіны вежы, а таксама, каб захаваць у першапачатковым выглядзе сувязь выхадаў з памяшканнямі, лесвічныя выхады ў памяшканне першага паверха вежы былі рэканструяваны. Пасля вычарпання запасаў старой цэглы, здабытай з-пад завалаў, была замоўлена новая цэгла выдатнай якасці, якая, як і старая гатычная цэгла, была цёмна-вішнёвага колеру і арыгінальнага памеру. Цэгла ў той час была значна боль-



***Фердынанд Рушчыц і Людамір Слядзінскі, перад ганкам дома Рушчыца, каля 1928 г.***

шай, чым у позні і цяперашні час.

Работы ў Троках і на руінах іншых замкаў у часы маёй кансервацыйнай працы ў Вільні і Навагрудку грунтаваліся на гэтых жа прынцыпах кансервацыі, а не рэканструкцыі. Але мае наступнікі пайшлі далей, чым я. І Ксаверый Півоцкі ў 1936-1937 гг. і Вітольд Кяшкоўскі ў 1938 і 1939 гг., рэканструюючы часткі замка, імкнуліся да яго поўнай адбудовы. Пасля вайны, у 1951 г. у Троцкім замку аднавілі працу летувіскія кансерватары. Зараз гэта была ўжо поўная рэканструкцыя замка, якая працягвалася да 1956 г. У замку размясціўся гістарычны музей. Замак у Троках мае асаблівае значэнне для летувісаў, бо звязаны з памяццю пра Кейстута і вялікага князя Вітаўта, які тут памёр.

Пасля кансультацыі з прафесарам Клосам я даручыў кіраўніцтва працамі ў Троках архітэктару Яну Бароўскаму[13], асістэнту, а потым і дацэнту кафедры архітэктуры прафесара Людвіка Сакалоўскага на факультэце прыгожага мастацтва ўніверсітэта. Гэта быў вельмі добры крок, бо сваю задачу Бароўскі выканаў бездакорна і, можна сказаць - ён палюбіў Трокі. З юнацтва ён цікавіўся гістары-чнай архітэктурай. Цікава, што яго дыпломны праект 1917 г. ў акадэміка архітэктуры Г. Грыма ў Пецярбургу быў праектам ратушы ў стылі польскага рэнесансу. У Вільні, дзе Бароўскі пасяліўся ў 1924 г., яшчэ да 1929 г. ён правёў кансервацыю касцёла св. Казіміра і пабернардынскіх муроў, упрыгожыў інтэр'ер Вострабрамскай капліцы (у сувязі з кансервацыяй цудатворнага абраза ў 1927 г.[14] кансервавалі і касцёл св. Тарэзы) - такім чынам, ён ужо меў вопыт у галіне аховы помнікаў. У 1945 г. Бароўскі прызначаны першым польскім кансерватарам Гданьска і ваяводства. Дзякуючы яго энергіі і прадбачлівасці тут былі адбудаваны Марыянскі касцёл, Галоўная ратуша і г.д.

Сямейная пара Ян і Халіна Бароўскія былі самымі тыповымі "віленцамі" ў лепшым сэнсе гэтага слова. Асабліва Халіна, якая гаварыла з такім віленскім акцэнтам, што можна было пазнаць яе за кіламетр.

5 ліпеня 1929 г. віленская прэса пісала: *"А 4-й гадзіне дня ў Вільню прыбыў дырэктар Дэпартамента мастацтва Міністэрства Веравызнанняў і асветы Войцех Ястжэмбоўскі. Дырэктар Ястжэмбоўскі, зрабіўшы некалькі візітаў да мясцовых уладаў, агледзеў Школу мастацтваў і рамёстваў Віленскага таварыства выяўленчых мастакоў у суправаджэнні кансерватара доктара Лорэнца, наведаў выдатныя помнікі горада Вільні а потым накіраваўся у Трокі, дзе агледзеў сцены замка і азнаёміўся з распачатымі работамі па ўмацаванні руін"*.

Візіт Ястжэмбоўскага стаў магчымасцю ўмацаваць мае адносіны з заснаваным у 1920 г. віленскім Таварыствам выяўленчага мастацтва на чале з Людамірам Сляндзінскім[15]. Для мяне гэта было вельмі важна, бо Таварыства гуртавала вельмі актыўных мастакоў сярэдняга пакалення і было жывым мастацкім і культурным цэнтрам, які пачынаў адыгрываць усё большую ролю ў культурным жыцці Вільні, канкуруючы з факультэтам прыгожых мастацтваў універсітэта. У 1930-я гг. працаваць на факультэт былі запрошаны найбольш выбітныя члены Таварыства Ямант, Несялоўскі, Хопен, Квяткоўскі.

Таварыства налічвала каля 25 членаў і праіснавала да 1939 г. Ядро арганізацыі, акрамя прэзідэнта Людаміра Сляндзінскага, складалі Браніслаў Ямант[16], Ежы Хопен,

[13] Ян Бароўскі (1890-1966), гісторык мастацтва, рэстаўратар помнікаў архітэктуры, займаўся дакументаваннем, кансервацыяй і рэстаўрацыяй помнікаў культуры Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Архітэктар Радуньскага касцёла. - *Л. Л.*

[14] Абраз Маці Божай Вострабрамскай памерам 163 х 200 см верагодна быў намаляваны ў XVI ст. Дэталёвае даследаванне і кансервацыя абраза былі праведзены Янам Руткоўскім у 1927 г. перад яе каранацыяй. Па тэхніцы, грунтоўцы і саставу фарбаў вызначана, што абраз верагодна створана ў другой палове XVI ст. італьянскім мастаком. - *Л. Л.*

[15] Сляндзінскі Людамір (1889, Вільня - 1980, Кракаў) - мастак-манументаліст. - *Л. Л.*

[16] Браніслаў Ямант (1886, в. Дакудава пад Лідай - 1957, Торунь) - мастак, педагог. Доктар мастацтвазнаўства (1953 г.).




Казімір Квяткоўскі, Міхал Роўба, Казіміра Адамская-Рубіна, Эдвард Карней і Артур Мядзыблоцкі. У першыя гады ў працы Таварыства актыўны ўдзел прымалі архітэктары Станіслаў Вазніцкі, Тэадор Буршэ і Павел Вендзягольскі. Вазніцкі, як і Сляндзінскі, з'яўляўся выпускніком Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Ён быў ініцыятарам штомесячніка "Апоўдні", прысвечанага мастацтву і мастацкай крытыцы, часопіс спачатку выходзіў у Вільні, а потым, да 1924 г., у Варшаве. Я кажу гэта, каб паказаць, што амбіцыі Таварыства выходзілі і за межы Вільні. У пазнейшыя гады вельмі чынным быў архітэктар Стэфан Нарэбскі.

У памятнай кнізе Таварыства, выдадзенай у 1930 г. да 10-годдзя заснавання, яно характарызавалася наступным чынам: *"Таварыства аб'ядноўвае жывапісцаў і скульптараў розных мастацкіх накірункаў, але ў яго лоне ўтварылася асобная група з пэўным накірункам і мастацкімі мэтамі - група, названая прафесійнымі крытыкамі, Віленскай школай"*. Гэтая Віленская школа бярэ пачатак з творчасці Сляндзінскага. Сярод членаў школы былі Хопен[17], Квяткоўскі, Карней, Пілецкі, Дамброўская і некаторыя іншыя. Уласны творчы шлях мелі Тыман Нясялоўскі[18], а таксама Ямант і Роўба.

Людамір Сляндзінскі, выпускнік Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу, вучань ураджэнца Вільні Дзімітра Кардоўскага, вільянін "па крыві і косцы", з'яўляўся трэцім жывапісцам і другім піяністам у сям'і. Яго дзед Аляксандр быў вучнем Рустэма, бацька Вінцэнты вучыўся ў Школе прыгожых мастацтваў у Маскве, а перад ад'ездам з Вільні ў Маскву ў 1856 г. браў урокі музыкі ў Манюшкі. Ён хацеў выхаваць свайго сына Людаміра музыкантам, адсюль і яго музычныя здольнасці. І дзед, і бацька Людаміра займаліся пераважна партрэтным жывапісам. За ўдзел паўстанні 1863 г. Вінцэнт Сляндзінскі быў асуджаны на пасяленне ў Княгінін Ніжагародскай губерні. Адзін з яго партрэтаў гэтага перыяду я нечакана знайшоў у Ленінградзе, калі быў там прыкладна ў 1970 г. Мой сябар, выдатны археолаг і дырэктар Эрмітажа Барыс Пятроўскі, запрасіў мяне да сябе на абед. Седзячы за сталом і агледаючы пакой, я ўбачыў маленькі жаночы партрэт.

- Ведаеш, Барыс, я бачу, што гэты партрэт мае выразны віленскі характар.

Барыс падняўся, зняў партрэт са сцяны, павярнуў яго і паказаў мне надпіс - гэты партрэт яго бабулі Фаўстыны Сушчынскай, намаляваны Вінцэнтам Сляндзінскім у 1865 г. у Княгініне. І дадаў:

- Мой прадзед быў палякам, афіцэрам польскага войска, якога за ўдзел у паўстанні 1830-1831 гг. выслалі на Каўказ, і там ён ажаніўся з рускай жанчынай. Бацька быў генералам, брат рыхтаваўся да дыпламатычнай кар'еры, я адзіны ў сям'і "не выйшаў у людзі", бо захапляўся навукай, асабліва археалогіяй. І вось так атрымалася, што адказную пасаду атрымаў адзін я.

Са старымі віленскімі традыцыямі Людамір Сляндзінскі быў звязаны не толькі праз бацьку і дзеда. Яго маці ў першым шлюбе была за Юзафам Чаховічам, вядомым фатографам Вільні XIX ст. Калі пасля яго смерці ў 1888 г. яна выйшла замуж за Вінцэнта Сляндзінскага, дык перадала яму фатаграфічную майстэрню разам з 200 пласцінамі з маляўнічымі фотаздымкамі Вільні, яе архітэктурных помнікаў, гарадскога краявіду і прыгожага віленскага барока. Менавіта з фотаздымкаў Чаховіча кнігарня Элізы Ажэшкі выдавала серыі альбомаў, а пазней маці Людаміра выдавала фотаадбіткі і альбомы. Так што Вільня, яе традыцыі, яе мастацкае мінулае жылі ў яго ў крыві.

Мае стасункі са Сляндзінскім ад пачатку былі вельмі добрымі, і нашы сем'і сябравалі з таго часу, як мы ў 1931 г. знялі кватэру на вул. Вількамірскай, насупраць касцёла св. Рафала, а Сляндзінскія ў той час жылі ў Сніпішках, зусім побач з намі на вул. Кальварыйскай (яна была на другім беразе Віліі, адразу за Зялёным мостам). Уражвала кватэра Сляндзінскіх з вялікай гасцёўняй, карцінамі, з вялікім піяніна.

Мы таксама хутка пасябравалі з Хопенам, Квяткоўскім і Нарэбскім. Збліжала нас тое, што ўсе трое былі сапраўднымі аматарамі гістарычных помнікаў і Вільні. У Хопена выразам гэтага, між іншым, былі тры прыгожыя партфоліа (18 афортаў) з відамі Вільні. Усе трое таксама займаліся кансервацыяй помнікаў, хоць спецыяльнай кансервацыйнай падрыхтоўкі не мелі. У Школе мастацкіх рамёстваў, дырэктарам якой на працягу некалькіх гадоў быў Хопен, у пасляваенныя гады вучыліся выдатныя кансерватары - Вільгельм Кукліс і Леанард Торвірт. Ежы Хопен быў выбітным графікам, мастаком высокай культуры. Будучы дацэнтам на факультэце прыгожых мастацтваў у Вільні, ён выхаваў групу добрых графікаў, а потым працаваў прафесарам графікі ў Торуньскім універсітэце.

Казімір Квяткоўскі быў партрэтыстам. У мяне ёсць цэлая сямейная галерэя яго партрэтаў, пачынаючы з лепшага партрэта Ірэны, які выстаўляўся ў 1933 г. у Інстытуце прапаганды мастацтва ў Варшаве.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[17] Ежы Хопен (1891, Коўна - 1969, Торунь) -жывапісец, графік, гісторык мастацтва, педагог, рэстаўратар. З 1925 г. працаваў выкладчыкам у Віленскім таварыстве мастакоў, з 1931 г. дацэнт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, загадваў кафедрай графікі. - *Л. Л.*

[18] Тыман Несялоўскі (1882, Львоў -1965 , Торунь ) - жывапісец, графік, педагог. Займаўся таксама прыкладным мастацтвам. З 1926 г. жыў у Вільні, дзе да 1932 г. працаваў выкладчыкам Школы мастацкіх рамёстваў, з 1937 г. - дацэнт кафедры манументальнага жывапісу факультэта выяўленчага мастацтва Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. - *Л. Л.*

[19] Казімір Квяткоўскі (1893, Беласток - 1964, Варшава ) - жывапісец і педагог. - *Л. Л.*



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Дзеля індзейцаў ці дзеля сябе?: Грынкевіч, Еўтушэнка; гульня ў індзейцаў*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-37 (53-89) за 2023 г.)*

Крыніцы, у якіх ідзе гаворка пра гульні ў індзейцаў, - шматлікія. Мы падзяляем беларускі матэрыял па гульнях у індзейцаў на той, што адносіцца да тэрыторыі Беларусі ў сучасных межах, і той, калі дзеці - беларускія (дзеці з беларускімі каранямі ў Расіі, Польшчы, Літве і іншых краінах) і небеларускія - гуляюць за межамі Беларусі. Прыклады падобных гульняў частыя ў беларускай і небеларускай (асабліва ўласна рускай у Беларусі) мастацкай літаратуры, так ці інакш звязанай з нашай краінай. Напрыклад, цікавасць да індзейцаў у сям'і Ульянавых пададзеная ў беларускім друку і як строгі факт, і як адна з ліній у белетрыстыцы, якая грунтуецца на ім.

Пра тое, што гульня ў індзейцаў распаўсюдзілася пад уплывам прыгодніцкай і геаграфічнай літаратуры і ў дарэвалюцыйнай Беларусі, сведчаць некалькі прыкладаў - як з белетрыстычных або белетрызаваных крыніц, так і з "дакументальных".

Зусім натуральна, што гэта было найбольш характэрнае гімназістам, якія прыязджалі на лета ў маёнткі. Паводле З. Бандарынай, якая прысвяціла гэтаму некалькі абзацаў у аповесці пра маленства Янкі Купалы, маленькі Янка назіраў забавы паніча Валодзі Самойлы і яго сяброў у ваколіцах Сеніцы пад Менскам (Сенніца; вядома, што Самойла прыязджаў у бацькоўскі фальварак Казіміраўка, а недалёка быў хутар Мачаны сваякоў Івана Луцэвіча, таксама паніча, але беднага, - сына шляхціца-аднадворца;




**_Евгений Курбатов (Красный Волк). Приглашение на Паувау 1987 "Встреча индейских игр" в виде складной открытки, с. 1 с 4. Як бы "сур'ёзна" ні ацэньвалі свой "індзеянізм" у адзенні і іншым індзеяністы, гэта ўсё ж варыянт гульні ў індзейцаў_**




**_"Сустрэча індзейскіх гульняў" - такая назва была ў паўваў каля Пецяярві (Ленінградская вобласць) у 1987 г. Запрашэнне, атрыманае ў Гомелі ад Чырвонага Ваўка (Яўгена Курбатава) з Вялікіх Лук, с. 2 з 4_**

*"На зіму Луцэвічы пераехалі ў маёнтак Сенніца, Янкавы бацькі засталіся тут на службе"): "скінуўшы з сябе форму, яны амаль галышом імчаліся да рэчкі, там абмажуцца глінай і пачынаюць гуляць у чырванаскурых індзейцаў.*

*Схаваўшыся ў вербалозе, сачыў за імі Янка, стаяў як зачараваны. Індзейцы вымушаны былі адступіць ад нападаючых. Асабліва Янку падабаўся іх правадыр, рухавы, танклявы юнак, малады студэнт, які ў гульні ператвараўся ў хлапчука.*

*- Стоп! Гэта не па правілах! - час-ад-часу чуйся яго гучны голас, калі "ворагі" пачыналі кідацца каменнямі ў індзейцаў ці намагаліся сыпануць ім у вочы пясок.*

*Здавалася, у самую крытычную хвіліну ён не падаў*

Большая просьба не распространятся о месте встречи и не передовать другим схему.

Начало встречи 27 июня, по приезду звонить можно к Иванову Сергею - 277-30-46 или Елифтерьевой Татьяне - 556-60-58

Отправление с Финляндского вокзала (ст. метро Площадь Ленина) электропоездом на Приозерск
6ч. 40мин. - В. 9ч. 53мин. - В. 17ч. 00мин.
7ч. 54мин. 12ч. 12мин. 17ч. 12мин.
8ч. 40мин. 15ч. 30мин. 18ч. 35мин.
18ч. 48мин.
* В - по выходным дням. 20ч. 15мин.
Доехать до Петяярви. 23ч. 42мин.

E. Kurbatov's invitation to Powwow 1987 near Petyayarvi, Leningrad oblast, p. 3 of 4

Всех приглашенных просим быть полностью экипированными для жизни в лесу.

Встреча под Ленинградом 4 „племен" „Оджибве", „Карел. Сиу", Каучи, „Ассинибойн"
с 27 июня по 6 июля.

Миска, ложка, кружка, нож, топорик, спал. мешок или одеяла, продукты питания на первое время, если есть - типи, инд. одежду.

Instruction for powwow participants from Kurbatov "Red Wolf", the last, 4th page of his invitation "card" (of 4 pages)

Letter from Evgeny Kurbatov (Red Wolf) Курбатов s.d., postmark Velikiye Luki 1987-05-12 p. 1 of 2

Letter from Red Wolf, leader of the "Kauchi" "tribe" of Velikiye Luki, "Great Arrows", postmark 1987-05-12 p. 2 of 2

*духам. Перахопліваў рукой нацэленыя на яго стрэлы, аддаваў загады. На прапанову ж здавацца раптам крыкнуў: "Уперад!" - і сам кінуўся на "варожае войска". Вось яго ўжо не відаць. Змялі. Б'юцца: хто лукам, хто проста кулакамі. Але вось юнак падняўся. Паваліў аднаго паніча, другога. Нехта заплакаў. Нехта кліча на дапамогу старэйшых. А правадыр і яго войска ўжо захапілі лодку, трубяць перамогу. Ад хвалявання Янка ўзнімаецца на ўвесь рост. Яго бледны ўзрушаны твар, убачаны знянацку сярод зялёных зараснікаў, прыцягвае агульную ўвагу. Правадыр, як належыць у такім выпадку, урачыста падыходзіць да яго, працягвае руку, гаворыць:*

*- Вітаем цябе, бледнатвары брат! Калі табе патрабуецца дапамога і абарона, звяртайся да нас".*

У выніку *"хвалюючы бой з індзейцамі паслужыў пачаткам вялікай дружбы"*.

Біёграфы знакамітага Якубы Чахоўскага (Чэхаўскога - і інш. варыянты) М. Мядзведзеў і Д. Чэхаўской называюць гульню ў індзейцаў, якую прапанаваў хлопчыкам вёскі Тavailable каля Гародні гэты сын прысяжнага паверанага, *"водгуллем павальнага ў той час захаплення падлеткаў раманамі Фенімора Купера, Майн Рыда, Гюстава Эмара"*. Яны *"развівалі фізічныя якасці і ўменне хутка бегаць, спрытна лазіць па дрэвах"*.

Першая крыніца пра індзейскія цікавасці "высакароднага разбойніка" Браншчыны і Гомельшчыны Аляксандра Савіцкага - біяграфічны артыкул аўтара-эсэра А. Сігава.

*"Самым любімым чытаннем і кнігамі Савіцкага ў гэтую школьную пару яго жыцця былі галоўным чынам творы Майн-Рыда, Густава Эмара, Фенімора Купера і асабліва - Ракамболя, а таксама і іншых аўтараў розных здарэнняў і прыгод на сушы і на моры. Ён літаральна захапляўся і зачытваўся імі да ап'янення. Мала таго, ён і ў жыцці сваім стараўся заўсёды, усюды і ва ўсім браць прыклад з іх і з сур'ёзнай камічнасцю капі-*





8 июня 1987 г.

Хау, не'дхи!

* Свой комплекс идей вы сможете приходить в форме доклада или рукописного материала, или же то и другое вместе, как вам самим будет удобно.

* Надеюсь что схему (нахождения места встречи) вы уже получили если что не понятно пишите сразу, времени мало.

* Материал по типи достать не сложно, мы его привезём, за неимением своего вы сможете остановиться в нашем или любом другом, где позволит свободное место, с этим проблемы не будет.

* Что касается любительской киносъемки, то это дело вполне разрешимое, снимайте и фотографируйте сколько хотите, мы лишь считаем что приглашение профес. журналистов и Т.В. пока преждевременно, в своем же кругу это дело прогрессирует.

* Если у вас будут деньги на продукты питания то вы сами сможете закупить сухой паёк в магазинах (по пути), а именно: пакетные супы, каши, сахар, хлеб, консервы, или же „ходить в складчину" с теми у кого будете „квартировать типи и стол".

* Из великолукских скорей всего будут: Лев. Рука, Б. Бобр, Кр. Волк с сыном и Борода с сыном. Из нашей группы могут вести постоянную переписку Лев. Рука и Жел. Собака (г. Мурманск), они оба будут на встрече под Ленинградом.

* С сожалением каунасского адреса у нас не сохранилось, т.к. переписка велась в 1973-74 году, а затем адресат переехал в Сибирь, а те кто остались в Литве отошли от индеанистики.

Ну вот пока и всё.

Хауги

Красный Волк

Хау!

***Letter from Red Wolf Kurbatov 1987-06-08***

*раваў сваіх любімых герояў перад вучнямі ў класе. Гэта быў сапраўдны культ шукальніка, разбойніка, кандацьеры, які страшэнна любіў прыроду і захапляўся ёю.*

*Разам са сваімі таварышамі ён ішоў на канікулах летам у поле і лес або катаўся на лодцы па рацэ, паляваў, страляў, лавіў сеткай і вудай ракаў, рыбу, збіраў ягады, грыбы і расліны для свайго гербарыя, лавіў насякомых і матылькоў для калекцыі і, як сапраўдны індзеец, курыў ля вогнішча люльку міру.*

*Гэта на іншых яго таварышаў-вучняў дзейнічала ў вышэйшай ступені прывабна і заразліва, і маленькі вучань-рэаліст Савіцкі лёгка знаходзіў сабе вучняў-таварышаў у сваіх дзіцячых гульнях і захапленнях, як потым ужо вядомы атаман і разбойнік Савіцкі лёгка знаходзіў сабе разбойнікаў-супрацоўнікаў і арганізоўваў свае разбойніцкія шайкі ў розных месцах паўднёва[?]-заходняй Расіі.*

*Начытаўшыся потым пра розных удалых разбойнікаў і заліхвацкіх запарожцаў Сечы, ён стаў не менш старанна захапляцца і наследаваць ім і з вялікім захапленнем разыгрываў з сябе то Пугачова, то Тараса Бульбу, то Сценьку Разіна - самага любімага яго героя".*

У далейшым ад фантазіі аўтараў залежала, што дадаць у карціну чытання і наследавання: *"абміраў над Фэніморам Куперам, Майн Рыдам, Густавам Эмарам..."* ("Хто вы, Аляксандр Савіцкі?", у кнізе У. Мехава "Далучэнне", 1992).

Блізкі да Савіцкага выпадак братоў Малеевых. Гомельскі гісторык і краязнаўца Юрый Глушакоў выявіў у маскоўскім архіве прыкметы падобнай цікавасці ў хлопцаў Малеевых, якія сталі рэвалюцыянерамі. Але апачы і каманчы ў іх параўноўваліся чамусьці не з народнай стыхіяй, а з антынароднай. Зрэшты, дзеці ў "індзейскіх гульнях" сапраўды былі з розных слаёў і сталі сапернікамі ў рэвалюцыйных падзеях і грамадзянскай вайне. Але выступалі тыя і другія ў гульнях і як індзейцы, і як белыя.

Цікавасць да індзейцаў у гульнявым сэнсе рэальна ўзнікла ў дзяцей, верагодна, у часы актыўнасці герояў Дастаеўскага і Чэхава, з матывам "уцёкаў у Амерыку" або без яго, а Грын і многія іншыя пісьменнікі значна папоўнілі дзіцячую "індзеяну".

У тое ж кола "забаў" трапляе гульня ў Рабінзона і Пятніцу (у Сеніцы ж) і плаванне галышом вакол лодкі з паненкамі, якое суправаджаецца дзікім індзейскім крыкам (апошніх?), пра што піша ў "Шчанюковых гадах" М. Ваньковіч. Нават будучы вядомы заходнебеларускі рэвалюцыянер і арганізатар падполля ў час Вялікай Айчыннай вайны В. Харужая, як вынікае з аповесці пра яе дзяцінства, пад уплывам адпаведнага чытання забаўляла сясцёр "танцам": *"Яна растапырыла пальцы рук, падняла іх угору, зрабіла страшны твар - і пачаўся танец дзікіх індзейцаў, пра якіх яна ўчора вечарам чытала сёстрам. Вера скакала то на адной, то на другой назе, потым перавальвалася, як мядзведзь, з нагі на нагу, круцілася на адным месцы"*.

У цэлым, атмасферу фантазій пра індзейцаў добра перадае ва ўспамінах пра знаходжанне каля станцыі Цёплая гара і казарм Гарэ-Вазнясенскага рудніка ў Пермскім краі Аляксандр Грын, бацька якога паходзіў з Беларусі. Так, Аляксандр Сцяпанавіч Грынеўскі, будучы рамантык Грын, у што зусім рэальна мог скарацiць сваё прозвішча і які-небудзь Грынкевіч, таксама *"дакаціўся да індзейцаў"*. У час той *"дробнай калумбіяды"*, падарожнічаючы ў раёне жалезных руднікоў, ён уяўляе сабе *"вогнішчы ў лесе, карабіны, патаемныя прытоны скупшчыкаў золата і разгул, мядзведзяў і індзейцаў"*. Далей: *"Заўважыўшы, што я дакаціўся да індзейцаў, я азірнуўся, але ніхто не чуў мяне на дзікай дарозе"*. Набор чытання А. Грына ў дзяцінстве мог быць той жа, што і ў Я. Маўра, як і амерыканскія геаграфічныя назвы, якія захаплялі ўяўленне. Магчыма, ён быў лепш падрыхтаваны для ўцёкаў у Амерыку, бо ведаў пра "пемікан" і іншыя падобныя рэчы, але ўжо ў школьным сачыненні "Шкоднасць Майна Рыда і Густава Эмара" разважаў пра гібельнасць гэтага роду літаратуры: *"начытаўшыся маляўнічых старонак аб далёкіх, таямнічых мацерыках, дзеці пагарджаюць звычайныя абставіны, сумуюць і імкнуцца ўцячы ў Амерыку"*. Як і Я. Маўр, ён не бываў за акіянам, падарожнічаючы з дапамогай "мар" і фантазіі.

Жорсткія ацэнкі традыцыйных аўтараў прыгод-








**Навагодняя паштоўка, мастак Сяргей Пчалінцаў, аўтар серыі "Татэмы" (1991-1992)**




**Belarusian New Year postcard, artwork by Siargei Pchalintsau, author of the Totems series**

ніцкай літаратуры прывялі да таго, што ў выданнях 20-30-х гг. цяжка адшукаць сведчанні таго, каб беларускія дзеці (у БССР) гулялі ў індзейцаў. Тым не менш патрэба ў цікавых гульнях не магла знікнуць нават у камуністычным грамадстве, як адзначана ў публікацыі "Тэатр і драматургія для дзяцей": *"З якой лёгкасцю і непрымусовасцю дзеці ператвараюцца ў гэты час у будзёнага і варашылава, у сапраўдных чырвоных і белых, у матросаў, капітанаў і паляўнічых, вандроўнікаў, дзікуноў, нарэшце, у жывёл, у коней, ваўкоў, сабак, нават у "неодушевленные" рэчы".* Выраз "сапраўдныя чырвоныя і белыя" гучыць тут як штосьці, што можна аднесці ці то да рэвалюцыйнай Расіі, ці то да свету дзікуноў і капітанаў-вандроўнікаў.

Але традыцыі гульні ў індзейцаў перамаглі і заставаліся важнай часткай дзяцінства на працягу ўсіх наступных змен грамадскага ўкладу. І нават эклектычныя гульні і танцы дзяцей выклікалі індзейскія асацыяцыі. У аповесці М. Герчыка "Сонечнае кола" (1970), названай так, як здаецца, у сувязі з бажаством Кон-Цікі-Віракоча, падарожжам на "Кон-Цікі", выконвае *"штосьці накшталт ваеннага індыйскага* [так!] *танцу, якому можна б было даць кодавую назву "Бумеранг". Ён прысядаў і круціўся, падскокваў і размахваў рукамі, штосьці пагрозліва выгукваў... Не хапала толькі галаўнога ўбору з арлінага пер'я і тамагаўка для зняцця скальпаў, каб падабенства з індзейцам, які выходзіць на ваенную сцежку, было поўным".*

П'еса В. Зуба "Марат Казей" звязвала гульню ў індзейцаў, прыгоды на ўяўнай *"ваеннай сцежцы"* з барацьбой супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў не па свежых уражаннях і, верагодна, не на падставе вядомых аўтару фактаў з жыцця, і мы знайшлі таксама і паралельны выпадак, які адносіўся да гульняў у індзейцаў у асяроддзі *"перамешаных асоб"*. У Зуба ў першай карціне каля невялікага мастка праз ручай на палянцы Марат з сябрамі - *"Каршуновым кіпцюром"* і *"Дзікім вепруком"* - *"трэніруюцца"*, г.зн. маскіруюцца, мяняюць пазіцыю і страляюць з лука, а ў эпілогу тры партызаны і Марат Казей прымаюць апошні бой быццам бы на тым жа месцы: *"Ноч. Масток. Магчыма, той самы, каля якога трое сяброў у самым пачатку гулялі ў індзейцаў. Той самы, ды не той. [...] Ужо чуваць галасы: Здавайся, рус! [...]".*

**Літ.:**

*553 Бандарына З. А. Ой, рана на Івана...: аповесць аб дзіцячых і юнацкіх гадах Янкі Купалы. Мн., 1961.*

*1082 Волох О. В день - по чуду // Зорька. 1990. 6 июля.*

*1098 Вучымся "індзейскай грамаце" // Піянер Беларусі. 1990. 21 чэрв.*

*1206 Дарафееў І. Навошта выхоўваць нянавісць // Чырвоная змена. 1985. 19 верас.*

*1208 Дашук О. Жених и невеста // Знамя юности. 1988. 28 янв. ("З дзяцінства мы былі ў прыяцельскіх адносінах. Мне 3, яму 4. [...] Мне 8, яму 9. Мы - індзейцы. "Прэрыя" - чужы дзіцячы сад, куды мы забіраемся ў вячэрнім прыцемку. Шалёныя скачкі на мустангах (рыпучыя арэлі), лютыя напады на варожае племя (вартаўнік дзіцячага садка), перамога над ім (вартаўніку надакучае нас лавіць, і ён сыходзіць на спачынак). Ваяўнічыя скокі, "люлька міру"... [...] Мне 17, яму 18..." - у сувязі з гэтым допісам мы атрымалі адказ аўтара.)*

*1682 Не играйте, дети, с пистолетами! // Народная газета. 1992. 18 нояб.*



1711 Няхай Л. І яна вырашыла застацца // Піянер Беларусі. 1990. 23 жн.

1869 Рейган Р. Жизнь по-американски // Народная газета. 1992. 18 апр.

2201 Якубович П. Свет и тени // Знамя юности. 1987. 26 июля. ("Не да смеху, юныя фашысты [ў Ленінградзе] зусім не дзеці, што гуляюць у індзейцаў".)

9006 Ходза Н. Индейцы // Зорька. 1963. 30 марта. (Из рассказов о детских годах В. И. Ленина.)

2562 Ходза Н. Індзейцы // Ходза Н. Самы чалавечны чалавек: апавяданні пра Леніна / пер. А. Марціновіча; іл. Т. Ксенафонтава. Мн., 1968.

3197 Ходза Н. Пасля паказу // Ходза Н. Самы чалавечны чалавек: апавяданні пра Леніна / пер. А. Марціновіча; іл. Т. Ксенафонтава. Мн., 1968. С. 7-10.

3760 Сигов А. Похождения революционера-экспроприатора Савицкого // Исторический вестник. 1911. Дек. Т. 126. Год 32. С. 1002-1034.

4689 Медведев М. Н., Чеховский Д. Я. Богатырь Якуба. М., 1987.

1658 Мядзведзеў М., Чэхаўской Д. Асілак Якуба. Мн., 1991.

5279 Маслюкова Л. Немецкий дом семьи Люкен для философов, детей и зверей // Народная воля. 1997. 23 дек.

5988 Булгакаў В. Правільны выбар // Arche. 1999. № 2. С. 129-144.

1166 Грин А. Автобиографическая повесть // Грин А. Избранное: повесть, феерия, романы / сост. П. Соломерецкий. Мн., 1981. С. 3-123.

7089 Зуб В. Марат Казей: п'еса ў дзвюх частках, васьмі карцінах // Зуб В. П'есы: для школьнай сцэны. Мн., 1972. С. 71-120.

1073 Владимиров П. Игра в жизнь // Знамя юности. 1989. 20 июня.

8146 Чарот Ю. "Куда же мы попали?" Недоумевали гомельские ребята, которые вместо краеведческого лагеря оказались участниками "Дикой игры" // Гомельская праўда. 2006. 17 окт.

8978 Сацута А. Н. Индейское лето: игровая программа для детей младшего и среднего школьного возраста // Выхаванне і дадатковая адукацыя. 2013. № 4. С. 28-29.

3985 Макееў С. [Гульня] [Карта] "1492 Адкрыццё Амерыкі 1992" // Піянер Беларусі. 1992. 7 мая.

1323 Знайка: гульні, загадкі, самаробкі / аўтар-мастак С. Пчалінцаў. Мн., 1990. (Аўтар беларускай навагодняй паштоўкі з "індзейскімі" элементамі, якія зблізкаюць яго з нашчадкам чэрокі мастаком Бобам Раўшэнбергам.)

9054 Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Ю. Лозка; 2-е выд. Мн., 2000.

9096 Глушаков Ю. "Кровавое воскресенье" на Гомельщине: как местные рабочие поддержали своих питерских товарищей // Новый Вечерний Гомель. 2013. № 2. С. 15. (Малеевы, апачы, каманчы.)

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (17) - ураджэнцам Пенсільваніі, але русінам па сваіх каранях з'яўляецца наш карэспандэнт, святар і даследчык праваслаўя на Алясцы Майкл Алекса (Fr. Michael Oleksa), які са сваёй жонкай даў жыццё "русінска-эскімоскім" дзецям. У Прэшаве ён атрымаў сваю доктарскую ступень, у Прэшаве ж зрабіла пераклад пра "Пра школу" Ганна Плішкава (Інстытут русінскай мовы і культуры пры Прэшаўскім ўніверсітэце).



***Anna Pliskova (Ганна Плішкава), Preshov (Preshov), Slovakia***

***"О ШКОЛЇ***

*В школї є 23 хлопців. Суть роздїлены до 3 клас. Класы окрем учіня служать і як штудовнї. Про вольны години не суть выдїлены самостатны містности. Вшыткы класы (і спалнї) ся находять в пивниції. В двох є таке слабе світло, же в них не мож чітати друкованы книжкы. Вентілації там нїт ниякой. Там вогко і смердить. Друга класа і їдалня суть в єднїй і тій самій містности.*

*Про вісемрічных хлопців платять тоты самы правила і способ жывота, як про 15-річних. Мають такый режім роботы: 3 і пів годины (од 13.30 до 17.00) робота в класах з учітелями; приправа на годины - 3 годины (од 8.00 до 11.00); спів 2 годины (дополудне од 11.00 до 12.00 і пополудне од 17.00 до 18.00); церьковна служба божа 2 годины (рано од 6.30 до 7.30). В суботу і свято служба ся продовжує на 6 годин за день. Дітём заказують носити довге волося, од якого ся там міцно завели вушы...*

*Єпіскоп собі присвоїв пінязї хлопців, котры з ним пришли ту. Вшыткы (12 людей) дістали пінязї на путь, з якых каждому зістало дас по 200 доларів. Дакількох хлопців, якы ту пришли, уже спровадили на Аляшку, і ани єдному не дали пінязї, жебы собі могли купити бодай лем якесь шматя, а то не говориме уж о важнїшых потребах". [trans. into Rusin by Anna Plishkova (Pliskova)]*

*(Грінкевіч, Николай. О школі / пер. з рос. Анны Плішковой // Веснік БІТ. 2016. 30 чэрв. № 36.)*

**Літ.:**

*11269 Грэндэль Л. Сярэдняя Еўропа і яе прывіды // Славацкая надзея: досвед дэмакратычных трансфармацый / пер. са славац. С. Сматрычэнкі. Братыслава; Мн.; С.-Пецярбург, 2006. ("Неспрыяльнае геаграфічнае становішча пазбавіла іх магчымасці разрабаваць багатыя нетры нееўрапейскіх кантынентаў. Яны не мелі мажлівасці каланізаваць аддаленыя краіны, вынішчыць індзейцаў, рэшту загнаўшы ў рэзервацыі, не маглі прывезці дадому чорных рабоў, якіх неўзабаве можна было б вызваліць, яны ніколі не цешыліся з уласнай экспансіі ў іншыя краі. Адно што ў нейкі час былі мацнейшымі за некага з суседзяў". Славакі, венгры, немцы, палякі...)*

*3856 Чэшскія і славацкія апавяданні: пераклады з чэш. і славац. моваў / склад. І. Мележ. Мн., 1958.*

**ЕЎТУШЭНКА Яўген** (2) - па маці карані ў Калінкавіцкім раёне, а адзін з яго знаёмых з індзейскімі каранямі - Роберт Раўшэнберг (Rauschenberg), які з боку бацькі - *"унук нямецкага імігранта і індыянкі з племені чэрокі"*.

З 1991 г. Еўтушэнка стала жыў, працуючы выкладчыкам ва ўніверсітэце, у Талсе (Аклахома), там і памёр у 2017 г. У горадзе каля 5 % індзейцаў, каля 14 % лаціна-амерыканцаў.

Індзейцы эпізадычна з'яўляліся ў яго паэзіі і да 1972 г., калі наведванне некалькіх краін Амерыкі дало штуршок для стварэння цэлай "абоймы" вершаў.

У 1985 г. у часопісе "Новый мир" была надрукаваная яго паэма "Фуку!" Індзейцы ў гэтым творы, які складаецца з паэтычных і празаічных фрагментаў, згадваюцца шматразова, як і Калумб, табу на вымаўленне імя (фуку) якога дало назву паэме. "Дичайшее дикарство - цивилизация" - гэты матыў гучыць на працягу ўсёй паэмы. Лёс касіка Каанаба, паляванне з сабакамі на індзейцаў, перавозка ў Еўропу рабоў, спойванне індзейцаў і іх спробы супраціўлення падаюцца ў кантэксце іншых гістарычных падзей і выпадкаў, сведкам якіх быў аўтар. Лірычны герой і аўтар назіраюць здымкі фільма пра сустрэчу Калумба з індзейцамі, заўважаюць на вуліцы Санта-Дамінга твары "*с жалкой полуиндеинкой смазанных черт*", прыгадваюць *"бесштанненьких индейчат"* - унукаў *"здрадніка маладагвардзейцаў"*, які дажывае свае дні ў Лацінскай Амерыцы. Як *"індзеец пасля катавання канкістадораў"* выглядае чамадан Я. Еўтушэнкі, атрыманы з багажу ў Санта-Дамінга; *"быццам індзеец у Калумбавых іржавых бранзалетах"* кажа ён *"фуку!" "поддельно бессмертным тиранам"*.

Паэма "Фуку" была перакладзеная на шэраг замежных моў. З англійскім перакладам узнікла *"кафкіянская сітуацыя"*, калі тэкст Ніны Буіс, якая на тыдзень прыляцела з ЗША для ўдакладненняў, забралі супрацоўнікі мытні менавіта на гэты тэрмін.

Ураджэнец Іркуцкай вобласці Еўтушэнка падрыхтаваў кнігу "Раздзеленыя блізняты: Аляска і Сібір", якая выйшла на англійскай мове з фатаграфіямі яго самога і Бойда Нортана (Divided Twins: Alaska and Siberia, выдавецтва "Вікінг", 1988).

Для Яўгена Еўтушэнкі, у якога сярод продкаў былі і прадстаўнікі прыбалтыйскіх немцаў, пра што сведчыць і яго першае, нямецкае прозвішча - Гангнус, натуральным было звярнуць увагу на паходжанне мастака Боба (Ì ³ëòàí à) Ðà¢øýí áåðãà: *"У яго жылах быў мудрагелісты амерыканскі кактэйль - нямецкая разважлівая кроў з бунтоўнай крывёй індзейцаў племені чэрокі. Калі вы прыгледзіцеся да яго жывапісу, то ўбачыце, што свае карціны ён піша менавіта гэтым кактэйлем, бо разважлівасць аналітыка спалучаецца ў ім з буянствам індзейца, які ступіў на сцежку вайны з рэгулярнай арміяй вытворчай нудоты"* (цытуецца з кнігі "Еўтушэнка-89"; першая выстава Раўшэнберга, славутага сваім укладам у развіццё "поп-арту", "абстрактнага экспрэсіянізму", "канцэптуальнага мастацтва", у Маскве адбыла-




***Envelope from Southern Plains Indian Museum and Crafts Center, Indian Arts and Crafts Board, US Department of the Interior (Anadarko, Oklahoma), received 1991-05-14***




***One of the 16 photos from an event sent from Oklahoma City by Arthur Landin (Kiowa) in 1990***








***Адзіная кніга з аўтографам Я. Еўтушэнкі, якую мае ў Калінкавічах раённая бібліятэка, - "Гэта - жанчына мая" ("Это - женщина моя", "This is my woman", 2012) (8.07.2017, фота аўтара БСІ)***

ся ў 1989 г., Еўтушэнка напісаў тэкст для каталога).

Святлана Алейнік у інтэрв'ю (змешчанае 10.10.2011) спытала ў яго:

*"- Каго яшчэ з вялікіх мастакоў вы ведалі асабіста?*

*- Роберта Раўшэнберга, ён напісаў карціну спецыяльна для мяне. Між іншым, у мяне з ім быў адзін цікавы выпадак. Пасля адкрыцця яго выставы ў Маскве, каталог якой выйшаў з маёй прадмовай, я прапанаваў паехаць да нас у Перадзелкіна. Раўшэнберг з задавальненнем пагадзіўся. І раптам выявілася, што ў нас у машыну набіваецца столькі народу, што ўсе не змесцяцца. "А я ўвогуле люблю ў такіх выпадках ездзіць у багажніку, - сказаў Раўшэнберг. - Давайце я зараз там паляжу і пасплю". Ён туды забраўся, і раптам, калі мы пад'ехалі да Перадзелкіна, нас спыніла міліцыя праверыць машыну: "А што ў вас у багажніку?". І ведаеце, што я адказаў? "У мяне там адзін амерыканец спіць". Міліцыянер сказаў: "Яўген Аляксандравіч, у вас сёння добры настрой" і багажнік не адчыніў. А я на ўсякі выпадак сказаў праўду".*

Перавароту ў Чылі, які адбыўся ў верасні 50 гадоў таму, прысвечаная яго паэма "Голуб у Сант'яга" (напісаная ў 1978 г., а Чылі ён наведаў у 1972 г.).

*"У мяне паэма ёсць, самая мая лепшая, якая дарагая мне больш за ўсё - "Голуб у Сант'яга". Яна пра самагубства аднаго чылійскага хлопчыка, якое адбылося на маіх вачах у Сант'яга-дэ-Чылі, у апошнія дні прэзідэнта Альендэ"* ("апошнія дні" - расцягнутае паняцце?).

Пра паходжанне хлопчыка можна меркаваць па звестках у паэме пра яго маці:

*"Она еще была почти красива*
*креольской смугловатой красотой,*
*в мантилье черной, в строгом черном платье".*

Варта зазначыць, што ў адрозненне ад Аляскі, у Лацінскай Амерыцы крэоламі пераважна называлі белых, іх нашчадкаў, і толькі ў поясе ад Бразіліі да Луізіяны гэта паняцце ўключыла нашчадкаў ад шлюбаў белых і неграў, таму для Чылі больш лагічна гучала б: *"прыгожая крэольскай светлаватай прыгажосцю"*. Але ў гэтай паэме Еўтушэнка згадвае, напрыклад, Віктара Хара - ён быў метысам.

Са слоў Еўтушэнкі, які спасылаўся на сваю карэспандэнцыю, паэма выратавала ад самагубства сотні людзей у розных краінах. Як жа ішоў падлік? Называюцца лічбы то каля 300, то больш за 1500. Як бы там ні было, некаторыя абвінавачвалі яго ў *"пафосной риторике и скрытом самовосхвалении"* (*"пафасная рыторыка і схаванае самаўсхваленне", "pathetic rhetoric and hidden self-praise"*). Сусветныя славутасці не меншыя, а большыя, чым ён, сцвярджалі, што ён кепскі паэт і яшчэ больш кепскі чалавек. Кожны вырашае сам, хто для яго Еўтушэнка.

Поўнае бібліяграфічнае апісанне незвычайнага *"з'яўлення" "голуба"* Еўтушэнкі ў Гомелі: *"Абрамов, Б. Э. Поэма Е. А. Евтушенко "Голубь в Сантьяго" и профилактика суицидов / Б. Э. Абрамов, И. М. Сквира // Христианство и современная медицина : сб. материалов науч.-образ. чтений, Гомель, 15 дек. 2016 г. / Гомел. гос. мед. ун-т, Гомел. епархия белорус. православной церкви, Кафедра общест. здоровья и здравоохр. ; редкол. : В. Лапицкий, А. Л. Свентицкая. - Гомель : ГомГМУ, 2017. - С. 3-6. - 1 электрон. опт. диск (CD-ROM)".*

**Літ.:**

*3959 Евтушенко Е. Боб Раушенберг и царевна-лягушка // Евтушенко-89. [Б.м.], 1990. С. 116-119.*

*2496 Евтушенко Е. Братская ГЭС: поэма // Евтушенко Евг. Поэт в России - больше, чем поэт. М., 1973. С. 10-167.*

*12457 Евтушенко Е. Братская ГЭС: поэма // Юность. 1965. № 4. С. 26-67.*

*603 Евтушенко Е. Братская ГЭС: стихи и поэмы. М., 1967.*








**Book by Evgeny Evtushenko, autographed by the author (photo by the author of the "Belarusians Meet Indians" series, 2017-07-08: звычайна аўтар БСІ вывучаў і каталогі бібліятэк на сваіх маршрутах - на наяўнасць найважнейшых кніг, звязаных з беларуска-індзейскімі сувязямі, М. Руселем, М. Грынкевічам)**

*2280 Евтушенко Е. Невоспитанность воспитания (статья) // Евтушенко-89 // Евтушенко-89. [Б.м.], 1990. С. 50-66.*

*5506 Евтушенко Е. Невоспитанность воспитания // Советская культура. 1989. 11 марта. С. 1, 6.*

*2499 Евтушенко Е. Под кожей Статуи Свободы // Евтушенко Е. Поэт в России - больше, чем поэт. М., 1973. С. 262-332.*

*2281 Евтушенко Е. Фуку!: поэма // Новый мир. 1985. № 9. С. 3-58. (У кожным бібліяграфічным апісанні або згадцы паэмы трэба правяраць наяўнасць знака "!": можа быць не толькі з "!" і без яго, але і з "?".)*

*7811 Евтушенко Е. Фуку?: (фрагм. поэмы) // Евтушенко Е. Полтравиночки: стихи и поэма. М., 1986. С. 18-66.*

*608 Евтушенко Е. Фуку! // Евтушенко Е. Почти напоследок: новая книга. М., 1985. С. 91-190.*

*607 Евтушенко Е. Фуку! // Евтушенко Е. Мама и нейтронная бомба и другие поэмы. М., 1986. С. 185-271.*

*609 Евтушенко Е. Фуку! // Евтушенко Е. Стихотворения и поэмы: в 3 т. Т. 3: 1975-1986. М., 1987.*

*3521 Евтушенко Е. Фуку // Евтушенко Е. Граждане, послушайте меня...: стихотворения и поэмы. М., 1989.*

*7812 Евтушенко Е. Фуку: поема // Евтушенко Е. Под всевиждащото небе: избрани стихотворения: прев. от рус. / подб. А. Андреев. София, 1988. (Народна култура, 1 и 2 изд.)*

*10024 Jevtusenko J. Fuku! Praha, 1987.*

*10617 Евтушенко Е. Ягодные места: роман. М., 1982.*

*3512 Евтушенко Е. В долине теней ("Куда ты бредешь, индианка…") // Литературная газета. 1972 . 17 мая. С . 15.*

*3513 Евтушенко Е. Гранд Каньон // Огонек. 1972. № 36. С. 12-15. (Аризона. Апрель.)*

*5808 Евтушенко Е. Жить, чтобы бороться, бороться, чтобы жить // Евтушенко Е. Точка опоры. М., 1981. С. 280-287.*

*5591 Евтушенко Е. Жить, чтобы бороться, бороться, чтобы жить // Евтушенко Е. Талант есть чудо неслучайное: книга статей. М., 1980.*

*3323 Евтушенко Е. Ивансито (Гуаррас) // Евтушенко Е. Дорога номер один: новая книга стихов. М., 1972.*

*5809 Евтушенко Е. Каждый человек - сверхдержава // Евтушенко Е. Точка опоры. М., 1981.*

*10083 Евтушенко Е. Казанский университет: поэма // Евтушенко Е. Мама и нейтронная бомба и другие поэмы. М., 1983. С. 55-110.*

*6044 Евтушенко Е. Кто ты, Гранд Каньон? // Евтушенко Е. Отцовский слух: стихи. М., 1978. С. 207-213.*

*3324 Евтушенко Е. Моя перуанка // Евтушенко Е. Дорога номер один: новая книга стихов. М., 1972.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenas, indios de America y Belarus; Grinkevich On the School Project (Church school in San Francisco, 1888-1892).***

# Дзень бібліятэк у Лідзе

15 верасня - Дзень бібліятэк Рэспублікі Беларусь. Ён адзначаецца ў краіне штогод з 2001 года. У якасці даты быў абраны дзень заснавання галоўнага кніжнага сховішча краіны - Нацыянальнай бібліятэкі.







Калектыў Лідскай раённай бібліятэчнай сістэмы ў сваё прафесійнае свята прымаў творчыя віншаванні ад народнай вакальнай студыі "Талісман" Палаца культуры горада Ліды. Гледачы шчыра пляскалі салісткам Валерыі Мяленцевай, Вераніцы Міхаловіч і кіраўніку студыі Дзянісу Вароновічу.

***Наш кар.***

# Паэты на мяжы

13 верасня прайшла сустрэча сяброў лідскага літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" з вайскоўцамі памежных застаў "Забалаць" і "Доцішкі".




Вершамі пра радзіму, прыроду, каханне, а таксама на ваенна-патрыятычнай тэматыку памежнікаў парадавалі Ганна Рэлікоўская, Ірына Маркевіч і Алена Несцерава.

***Наш кар.***




***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 18.09.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,25 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**

*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*